№ 44 (881) 26 лістапада 2014 www.nn.by

# Наша Ніва

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



Старонка 3

**Упершыню з'явілася афіцыйнае паведамленне пра аперацыю, зробленую Лукашэнку**



# Прыгажосць па-беларуску

## Айчынныя мадэлькі на замежных подыумах

**Беларускія мадэлькі адзелі майкі з арнаментам і зняліся для «глянцу». Праўда, пакуль толькі беларускага. Малы крок зроблены — сусветна вядомы рэпер Снуп Дог выпусціў калекцыю «Snoop Loves Belarus». Ці пашырыцца трэнд з нацыянальнымі ўзорамі на сусветную моду?**



Старонка 10

## Дзядзька Алег: «У свеце ўсім кіруе сіла»



**Пяць фактаў пра Юрыя Жадобіна, змагара з 1767 дэструктыўнымі элементамі**

Старонка 3



**Дунін-Марцінкевіч і падробка пячатак**

Старонка 14

Чаму на канцэрце «Акіяна Эльзы» ў Мінску ў гледачоў **адбіралі ўкраінскія сцягі?**

# Украіна патрабуе тлумачэнняў

Пасол Беларусі ва Украіне Валянцін Вялічка быў выкліканы ў Міністэрства замежных спраў у сувязі з інцыдэнтамі з украінскімі сцягамі на канцэрце «Акіяна Эльзы» ў Мінску.

Як паведаміў прэс-сакратар украінскага МЗС Яўген Перабійніс, «учора была размова з паслом Беларусі. Тлумачэнне было такое ж, як і МЗС Беларусі ў Твітары — што існуюць інструкцыі, якія забараняюць выкарыстанне сцягоў на такіх масавых мерапрыемствах». «Але тут нават справа не ў інструкцыях, а ў тым, што, сапраўды, была прадэманстраваная непавага да дзяржаўных сімвалаў сяброўскай суседняй краіны. Менавіта ў гэтым і было нашае пытанне. Таму мы спадзяемся, што будуць зробленыя пэўныя высновы», — падкрэсліў прэс-сакратар МЗС Украіны.

МЗС няўклюдна спрабуе апраўдацца. Але ж факт застаецца фактам – украінцы пакрыўдзіліся.

Ім гэта дзіка. Нашто забіраць сцяг? Каб прынізіць краіну?

Дарэчы, на канцэрт «Акіяна Эльзы» сабраўся аншлаг, прычым на самай вялікай канцэртнай пляцоўцы Беларусі – у «Мінск-Арэне». І справа была не толькі ў музыцы, але і ў салідарнасці.

**Мікола Бугай**



Спецназавец забірае ўкраінскі сцяг у дзяўчыны на канцэрце гурту «Океан Ельзи».

## Выкарыстоўваць сцягі — законна!

У Беларусі існуе Дзяржаўны геральдычны рэгістр, у якім знаходзяцца апісанні і выявы ўсіх афіцыйна зарэгістраваных сімвалаў Беларусі. У ім вядзецца ўлік сцягоў, гербаў і іншых знакаў адрознення тэрытарыяльных адзінак, грамадскіх арганізацый, палітычных партый, форменнага аддзення і інш. — усяго, што называецца геральдычным сімвалам. А вось сцягі іншых дзяржаў у Беларусі не рэгіструюцца. Гэта «НН» пацвердзіла галоўны спецыяліст аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Дэпартамента па архівах Мінюста Марына Ялінская.

Не можа быць у гэтым рэестры і белчырвонабелага сцяга, які з'яўляецца гістарычным сімвалам, але больш не падпадае пад вызначэнне афіцыйнага геральдычнага сімвала. У юрыдычным плане белчырвонабелы сцяг мае той самы статус, што і сцяг СССР ці сцяг Расійскай Імперыі. І, па законе, тыя самыя правы.

Украінскі сцяг проста не можа быць зарэгістраваны ў Беларусі, бо заканадаўства гэтага не прадугледжвае, як не прадугледжвае рэгістрацыю амерыканскага, эфіопскага ці іншых замежных сцягоў.

Бяда ў тым, што законы ў Беларусі часта парушаюцца.

Юрыст Валянцін Стэфановіч расказвае: «Я нядаўна быў на канцэрце Тар'і Турунэн, там былі сцягі Фінляндыі. Іх ніхто не забіраў. А ўкраінскія забіраюць. Як заўсёды, у нас хтосьці дае загад і яго выконваюць, не гледзячы на тое, законны ён ці не. У сітуацыі на «Мінск-Арэне» міліцыя і ахоўнікі паступілі абсалютна неправамерна», — упэўнены ён.

«Хадзіць можна з любым сцягам, гэта мая асабістая справа, закон тут адназначны», — кажа юрыст.

**Кірыла Хілько**

**Бяда нашага часу**

### У Мінску яшчэ 20 чалавек трапілі ў рэанімацыю з перадозам спайсамі

З 17 па 21 лістапада ў горадзе было шпіталізавана амаль два дзясяткі чалавек, двое з якіх апынуліся ў рэанімацыі паўторна. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення наркакантролю і процідзеяння гандлю людзьмі ГУУС Мінгарвыканкама Канстанцін Ляшкевіч.

Пераважна гэта хлопцы ва ўзросце 15-20 гадоў, генафонд нацыі.

Спайсы ў Беларусь вязуць з Расіі праз адкрытую ўсходнюю мяжу.

**СГ**

## 20-гадовая мама збіла 5-месячнага сына да паўсмерці

**П'яная** была гэтая жыхарка Брэста.

Медработнікі выявілі ў дзіцяці чэрапную траўму, ацёк і гематому галаўнога мозгу з кровазліццём, а таксама пералом пляча.

Яна сама прызнае, што піла, пакуль муж быў на працы. Калі сын стаў плакаць, яна, каб яго супакоіць, нанесла некалькі ўдараў далонню па твары, а пасля кінула яго на канапу.

Следчымі быў дапытаны бацька дзіцяці. «Клопат і догляд аб іх сумесным дзіцяці абцяжарвалі жонку, раней яна прысылала мужу смс-паведамленне аб тым, што збіраецца здзекавацца з дзіцяці. 21 лістапада ён пайшоў на працу каля 19 гадзін, вярнуўся дадому раніцай, 22 лістапада, каля 4 гадзін. Калі сыходзіў, то жонка заставалася адна з дзіцем, была цвярозай. Увечары па тэлефоне жонка тлумачыла, што распівала спіртныя напоі. Па вяртанні ён выявіў на дзіцяці сляды пабояў: драпіны і гематомы. Якім чынам той атрымаў цялесныя пашкоджанні, жонка яму не сказала. Ён патэлефанаваў на лінію «103» і паведаміў, што дзіця бледнае і халоднае, хоць жонка прасіла не выклікаць медыцынскіх работнікаў», — адзначылі ў Следчым камітэце.

Маці хлопчыка прызнала сваю віну. На допыце яна паказала, якім чынам збівала сына.

Сям'я на ўліку ў міліцыі не была. 20-гадовая маці мае базавую адукацыю. У 2011 і 2013 яна прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за распіццё алкагольных напояў. Не судзімая.

«Па выніках медыцынскага агляду, у сувязі з затрыманнем, у яе выяўлена цяжарнасць ранняга тэрміну, супрацьпаказанні для змяшчэння ў ізалятар адсутнічалі», — сказалі ў СК.

У дачыненні да маці дзіцяці заведзена крымінальная справа па артыкуле «замах на забойства завedама малалетняй асобы, якая знаходзіцца ў бездапаможным стане». Ёй пагражае да 25 гадоў пазбаўлення свабоды.

**Кастусь Матушыч**

### Сціcла

**Супраць Дзядка завялі новую крымінальную справу**

Палітвязню Мікалаю Дзядку прад'яўленае новае абвінавачванне за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы». Зняволены павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка 2015 года, правёўшы за кратамі 4,5 года. Цяпер Дзядку пагражае яшчэ год турмы.

**Андрэя Бандарэнку перавялі ў ШІЗА**

Асуджанага праваабаронцу Андрэя Бандарэнку па ягонай просьбе змясцілі ў камеру штрафнога ізалятара. Там ён будзе знаходзіцца два месяцы. Рашэнне прынята ў якасці прымянення мер бяспекі. Перад гэтым Бандарэнка сутыкнуўся з некалькімі правакацыямі і абвяшчаў галадоўку.

**Coca-Cola пераходзіць на вытворчасць малака**

Карпарацыя створыць свой уласны брэнд дарагога малака пад назвай *Fairlife*. Новы прадукт змяшчае на 50% больш пратэіну і на 30% больш цукру, чым звычайнае малако на паліцах крам. Акрамя таго, яно не будзе ўтрымліваць лактозу. Гэтае малако будзе каштаваць удвая даражэй за звычайнае.

**Павел Вінаградаў з'язджае з Мінска**

Лідара «Змены» вымусілі пераехаць да бацькі ў Беразіно. Асноўная прычына — пагроза трапіць у ЛПП. Актывіст ужо мае тры адміністрацыйныя арышты за «стан алкагольнага ап'янення». Цяпер яны абскарджваюцца, аднак у пазітыўны для сябе вынік Вінаградаў не верыць.

**Грамадскі транспарт даражэе**

Да канца першай дэкады снежня праезд у грамадскім транспарце Мінска падаражэе з 4000 да 4500 рублёў.

**Адменены канцэрт Brutto ў расійскай Самары**

Следам за адменай канцэрта новага праекта Сяргея Міхалка Brutto на «Мінск-Арэне» адменены канцэрт і ў расійскай Самары. Як напісаў прадзюсар гурту, віною гэтаму праўладныя актывісты, і там «пішуць ад імя грамадскасці даносы, пагражаюць арганізатарам і канцэртным пляцоўкам».

**ЯМ**

### Самае чытанае на nn.by за 19 — 25 лістапада

1 Топ-10 самых прыгожых і непрыгожых дамоў чыноўнікаў у Драздах
2 Лукашэнка прааперававаны
3 Скандал: Беларусь адраклася «Міс свету — 2014»
4 Дворнік у Мінску высыпаў кантэйнер са смеццем на «Фальксваген»
5 Лукашэнка: Я ненавіджу нацыяналістаў, але бываюць яны і ў добрым сэнсе слова
6 Па Мінску ходзіць моладзь з вялікім імперскім сцягам
7 Прэс-сакратар Пуціна: У Латвіі магчымы дзяржаўны пераварот
8 Сяргей Маскевіч, якога прысароміў Лукашэнка: гісторыя жыцця міністра
9 Прыгажосць па-беларуску: айчынныя мадэлькі на замежных подыумах
10 Машыны, тэлефоны, тэхніка: беларусы пачалі масава закупляцца ў Расіі

# Упершыню з’явілася афіцыйнае паведамленне пра аперацыю, зробленую Лукашэнку

Кіраўніку краіны **прааперавалі нагу**.

У суботу 22 лістапада прэс-сакратарка Лукашэнкі Натальля Эйсмант нечакана для ўсіх паведаміла, што Лукашэнка быў прааперавaны на калене, бо траўмаваўся падчас хакейнай трэніроўкі. Эйсмант таксама патлумачыла, што насамрэч аперацыя была запланавана даўно, але «праз шчыльны графік прэзідэнта правесці яе раней было немагчыма». Стан Лукашэнкі быў апісаны як «задавальняючы», а для рэабілітацыі яму спатрэбіцца «3—4 дні».

Аперацыя была праведзеная ў Рэспубліканскім клінічным медыцынскім цэнтры, вядомым у народзе як лечкамісія. Галоўная доктарка клінікі Ірына Абельская запэўніла, што аперацыю Лукашэнку рабілі беларускія спецыялісты.

Дакладны дыягназ не паведамляўся. Аднак сам факт таго, што аб падзеі з асабістага жыцця Лукашэнкі паведамілі афіцыйна, паспеў нарадзіць чуткі. Чаму раней ніколі нічога не паведамлялі, хоць не мог жа чалавек 20 гадоў нічым не хварэць, а цяпер расказалі? Па Мінску папаўзлі чуткі, што пра аперацыю расказалі, бо стан Лукашэнкі нашмат цяжэйшы.



Хакейная кар’ера Лукашэнкі цяпер пад пытаннем.

Аднак можа быць і іншае тлумачэнне: Лукашэнка памяняў піяр-стратэгію і зараз будзе трохі інфармаваць пра сваё здароўе, каб здавацца больш адкрытым і блізкім да народу.

Лукашэнка, відавочна, актыўна займаецца спортам, а траўмы і захворванні каленных суставаў — пастаянны спадарожнік спартоўцаў. Да таго ж, Лукашэнку ўжо рабілі аперацыю на левым калене. Пра гэта ён сам расказаў на прэс-канферэнцыі ў 2013 годзе. Паводле словаў Лукашэнкі, ён надзвычай любіў гуляць у футбол і неяк падчас матча на вялікай хуткасці зваліўся на левае калена і пашкодзіў меніск. Зрабілі аперацыю, але боль пры бегу застаўся, што і прымусіла яго памяняць любімы футбол на хакей.

З нязначнасцю хірургічнага ўмяшальніцтва згодны і хірург Іван Шэга: «Калі зыходзіць з таго, што мы ведаем, што 3-4 дні — і ён зможа пацыху хадзіць, хутчэй за ўсё, яму рабілі артраскапію. Гэту аперацыю робяць, па-першае, каб удакладніць характар пашкоджанняў. Таксама падчас артраскапіі можна прыбраць з каленнага сустава кавалачкі жылы ці храстка, якія могуць адрывацца пры траўме і прычыняць боль. Бо аперацыя на адкрытым калене — гэта складана і доўга, гэта месяц-два рэабілітацыі з імабілізацыяй канцавіны».

**Кірыла Хілько**

**Што такое артраскапія?**

Артраскапія — гэта лапараскапічная аперацыя на суставах. Артраскапія праводзіцца з мінімальным хірургічным умяшальніцтвам і пад мясцовай анестэзіяй. Хірург робіць два невялікія надрэзы. У адзін з іх уводзіцца лапараскоп, праз які доктар назірае за аперацыяй, а праз другі — маніпулятар, якім праводзіцца аперацыя. Грамадзянам Беларусі гэтую аперацыю робяць бясплатна.

**Што яшчэ аперавалі Лукашэнку?**

У лютым 2010 года еўрапейскі партал *Euobserver* паведаміў, што, паводле інфармацыі атрыманай ад высокапастаўленага дыпламата ў ЕС, Лукашэнка ездзіў у Швейцарыю рабіць аперацыю на прастаце. Аднак неназваны беларускі дыпламат назваў гэта паведамлення «плёткамі».

# Пяць фактаў пра Юрыя Жадобіна, змагара з 1767 дэструктыўнымі элементамі

Аляксандр Лукашэнка **адправіў у адстаўку** міністра абароны Юрыя Жадобіна.

14 лістапада генералу споўнілася 60 гадоў — пенсійны ўзрост. Доўга чакаць з адстаўкай не сталі. Цяпер Жадобін на пенсіі, але з правам насіць вайсковую форму і знакі адрознення.

## 1. Целаахоўнік Лукашэнкі

Юры Віктаравіч Жадобін нарадзіўся ў Днепрапятроўску (Украіна) у 1954 годзе. Ён прафесійны вайсковец. У 1976 годзе скончыў Казанскае вышэйшае танкавае камандные вучылішча, у 1985 — камандны факультэт Ваеннай акадэміі бранетанкавых войскаў у Маскве. З 1990 па 1999 год Юры Жадобін служыў на камандных пасадах у сістэме грамадзянскай абароны Беларусі, унутраных войсках МУС РБ. Там жа ў той самы час служыў іншы вядомы танкіст — Юрый Сівакоў.

У 2003 годзе Жадобін атрымаў суперадказную працу. Не міліцыянт і не чэкіст узначаліў службу аховы прэзідэнта. Гэта сведчыць пра вялікі давер з боку Лукашэнкі да гэтага чалавека.

Як адзначаюць, Жадобін ніколі не займаўся інтрыгамі. Кааліцый не будаваў. Быў звычайным адказным работнікам, які здольны не толькі выконваць пастаўленую перад сабой задачу, але і пасмяяцца. А размаўляў з адметным генеральскім «мацярком».

## 2. 1767 «пацукоў» генерала Жадобіна

У КДБ Жадобін пратрымаўся толькі год. У час працы Юрыя Віктаравіча ў Камітэце дзяржбяспекі актывізавалася вярбоўка грамадзян, што прыводзіла да шэрагу скандалаў.




Кажуць, што Жадобін мог пашыхтаваць супрацоўнікоў КДБ на пляцы, каб зачытаць ім прыказы ці навяўвядзенні — ад армейскіх звычак нікуды. Яшчэ Жадобіна абуралa, што «чэкісты» ходзяць на працу не ў форме.

Самая ж славутая заява Жадобіна была пра 1767 «дэструктыўных элементаў». «У так званую суполь-насць дэструктыўных элементаў уваходзіць усяго 1767 асобаў. Мы іх усіх ведаем паймена, і іх не робіцца ні больш, ні менш», — сказаў Жадобін.

Тады нават апазіцыя выпусціла значкі «Адзін з 1767».

## 3. Не справіўся ў Радзе бяспекі

Дзяржсакратаром Рады бяспекі Жадобін стаў на хвалі выбуху 2008 года на Дзень рэспублікі. Тады Лукашэнка ва ўсім абвінаваціў Віктара Шэймана, а яго зменшчыкам прызначыў якраз Жадобіна. Танкіст Жадобін даволі хутка выцісну з усіх пасад у Радзе бяспекі людзей Шэймана. Аднак з працай ён не справіўся. Лукашэнка разгромна раскрытыкаваў яго: «Вы прайграяце ўсім папяровым дзяржсакратарам». Праўда, панізіў не надта моцна — да міністра абароны.

## 4. «Аднаўляў вайсковыя гарадкі з руін попелу»

Усё ж войска было і застаецца галоўнай стыхіяй Жадобіна. Пасля не надта ўласцівых пасад у КДБ і Радзе бяспекі, у Міністэрстве абароны генерал адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Быў задаволены ім і кіраўнік дзяржавы.

«І тое, што дзясяткі вайсковых гарадкоў аднавілі з руін і попелу, прывялі ў нармальны стан, і тое, што ў нас армія адчувае сябе як армія, і тое, што мы вызначыліся на перспектыву, — гэта вялікая яго заслуга», — сказаў Лукашэнка, узнагароджваючы Юрыя Жадобіна ордэнам «За службу Радзіме» III ступені.

Літаральна пару дзён таму Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел узнагародзіў Юрыя Жадобіна «за значны ўклад у царкоўна-дзяржаўнае супрацоўніцтва» ордэнам Святцеля Кірылы, епіскапа Тураўскага, І ступені. Зрэшты, да колькасці ўзнагарод Леаніда Мальцава Жадобіну яшчэ далёка.


Ларыса Аляксандраўна Жадобіна — доктар і выкладчыца.

## 5. Сям’я

Жонка Юрыя Жадобіна, Ларыса Аляксандраўна, — доктарка па адукацыі. Яна цяпер выкладае на гуманітарным факультэце БДУ. Старшы выкладчык на кафедры экалогіі чалавека.

У пары двое дзяцей — сын і дачка. Дачка Аляксандра замужам за начальнікам Мінскага абласнога ўпраўлення МНС Максімам Шышканавым. Сама ж дачка з'яўляецца капітанам унутранай службы, старшым юрысконсультам упраўлення праваабарончага забеспячэння МНС.

А сын Віктар пайшоў дарогай бацькі. У 2012 годзе газета «Советская Белоруссия» паведамляла, што маёр Унутраных войскаў Віктар Жадобін скончыў камандна-штабны факультэт Вайсковай акадэміі. Віктар Жадобін атрымаў дыплом з адзнакай. Вядома, што яшчэ раней ён быў камандзірам 1-ай роты асобнага спецыяльнага міліцэйскага батальёна Унутраных войскаў. А сёння з'яўляецца першым намеснікам камандзіра вайсковай часці 5529.

**Зміцер Панкавец**

# Андрэй Іларыёнаў: **Чацвёртую сусветную Пуцін рыхтаваў 11 гадоў, і яна будзе доўгай**

Аб гэтым экс-дарадца прэзідэнта Расіі, які цяпер займае пасаду старшага навуковага супрацоўніка Цэнтра Інстытута Катона па глабальнай свабодзе і росквіце (Вашынгтон), заявіў у сваім выступе на канферэнцыі ў Брусэлі.

Эксперт перакананы, што падзеі ва Украіне нельга называць «ні крызісам ва Украіне, ні ўкраінскім крызісам». «Гэта ўжо не крызіс, а вайна. Гэта вайна ў вельмі простым сэнсе гэтага слова», — заявіў ён.

Паставіўшы пытанне, якога віду гэтая вайна, Іларыёнаў сам на яго адказаў: «Гэта — расейска-ўкраінская вайна. Калі быць больш дакладным, гэта вайна Пуціна супраць Украіны».

«Большасць расейцаў не падтрымліваюць гэтую вайну. Вайна Пуціна супраць Украіны ўжо з'яўляецца доўгатэрміновай», — перакананы эксперт.

Сваё меркаванне адносна таго, чаму гэтая вайна з'яўляецца доўгачасовай, Іларыёнаў пачаў тлумачыць тым, што, па яго перакананні, яна рыхтавалася мінімум 11 гадоў.

«З 2003 года. Я магу сказаць, што ў маёй прысутнасці абмяркоўваліся некаторыя пытанні будучай вайны супраць Украіны. У той час я не думаў, што гэта абмеркаванне прывядзе да сапраўднай вайны», — сказаў ён.



Іларыёнаў таксама лічыць, што, «на жаль, гэтая вайна хутка не скончыцца». «Мы бачым, што Пуцін кажа тое, што ён робіць. Мы маем справу з доўгатэрміновай вайной. Але гэта не толькі вайна Пуціна супраць Украіны», — перакананы эксперт.

У гэтым аспекце ён успомніў праблемы з Грузіяй, Арменіяй, Азербайджанам, Прыднястроўем, Казахстанам.

«Пуцін сказаў, што Казахстан не мае гістарычнай дзяржаўнасці. Гэта выразна значыць, што дзяржава, якая не мае гістарычнай дзяржаўнасці, можа яе страціць, калі Назарбаева не будзе побач», — сказаў эксперт, паказаўшы і на падзеі, якія за апошнія некалькі тыдняў адбыліся ў Латгаліі — Усходняй Латвіі, дзе пражывае рускамоўнае насельніцтва.

«Намер такі ж, як у Крыме і на ўсходзе Украіны — той жа падыход».

**УНІАН**

# Стралкоў прызнаўся, што гэта ён пачаў вайну ва Украіне: «Спускавы кручок націснуў я»

Былы камандуючы г.зв. «апалчэннем» Данбаса Ігар Стралкоў **прызнаў адказнасць** за пачатак ваеннага канфлікту на ўсходзе Украіны.

Адпаведную заяву ён зрабіў у інтэрв'ю газеце «Завтра».

«Спускавы кручок вайны ўсё-такі націснуў я. Калі б наш атрад не перайшоў мяжу, у выніку ўсё б скончылася, як у Харкаве, як у Адэсе. Было б некалькі дзясяткаў забітых, абпаленых, арыштаваных. І на гэтым бы скончылася», — заявіў Стралкоў, паўтарыўшы, што «практычна махавік вайны, якая да гэтага часу ідзе, запусціў наш атрад».

Па словах былога камандуючага, яго атрад «змяшаў усе карты», пачаўшы ваяваць сур'ёзна і знішчаць «дыверсійныя групы «правасекаў».

«І я нясу асабістую адказнасць за тое, што там адбываецца. За тое, што да гэтага часу Данецк абстрэльваюць, — я нясу адказнасць. За тое, што Славянск пакінуты, вядома, я нясу адказнасць», — сказаў на заканчэнне ён.



Каментуючы пачатак канфлікту, Стралкоў адзначыў, што першапачаткова ваяваць не хацеў ніводны з бакоў: ні апалчэнцы, ні ўкраінская сілавікі.

«Першыя дні ў Славянску і мы, і яны вельмі асцярожна падыходзілі да прымянення зброі, — распавёў ён. — Доўгі час мы не чапалі іх блакпасты, і яны не праяўлялі агрэсіі». Атакі на Славянск, па яго словах, былі ўжо пасля таго, як украінскі бок упэўніўся ў тым, што ў канфлікт наўпрост не ўмяшаецца Расія.

**МБ**

**Цытата**



**«Я ненавіджу нацыяналістаў, але бываюць і нацыяналісты ў добрым сэнсе слова»**

«Я ненавіджу нацыяналістаў, бо гэта радыкальныя людзі, якія абавязкова, як ва Украіне, прывядуць да катастрофы ў грамадстве. Я іх неяк спрабую трымаць на ланцугу, каб яны не сарваліся і не наламалі дроў, — сказаў кіраўнік дзяржавы 21 лістапада, наведваючы Беларускі дзяржаўны педуніверсітэт імя Максіма Танка. — Яны ж працэс беларускай мовы [сказаў па-беларуску — НН] — роднай, сакавітай (гэта сапраўды так) — пертвараюць у прадмет раздраю ў грамадстве, чаго быць не павінна. Мова не павінна быць прадметам, нагодай і прычынай гэтага раздраю».

Лукашэнка пры гэтым адзначыў, што гаворка не ідзе пра нацыяналістаў у добрым сэнсе слова, якія любяць Беларусь і сваю родную мову.

# Аштрафавалі за «Вярніце Крым»

Дзяўчына з Гродна клала **ўлёткі з ганьбамі** на аўто з расійскімі сцяжкамі.

Ленінскі суд Гродна прызнаў Вольгу Крапоціну вінаватай у незаконным вырабе і распаўсюдзе ўлётак з тэкстам «Верните Крым! Руки прочь от Украины» і «Ганьба здраднікам Радзімы з «трыкалорам» у зубах. Пуцін вам далонь пацісне, як уздыме на штыках!». Яна клала першыя пад дворнікі аўто з расейскімі нумарамі, а другія — на беларускія аўто з расійскімі сцяжкамі.

Крапоціну затрымалі 19 верасня ў цэнтры Гродна побач з гатэлем «Нёман». Пры ёй было 17 улётак. Яе кватэру ператрэслі, але болей нічога не знайшлі.

У судзе супраць Крапоцінай сведчыў нехта Уладзімір Гарэлаў. Ён нібыта быў у доме, побач з якім стаяла аўто з расійскімі нумарамі, на шкло якога Крапоціна і паклала ўлётку. Гарэлаў патлумачыў суду, што ўбачыў гэта з акна і выбег за Крапоцінай. Мауляў, некалькі дзён таму ў яго



пытаўся ўчастковы, ці не бачыў ён, хто кладзе гэтыя ўлёткі.

А паколькі Гарэлаў, як ён патлумачыў суду, вельмі шануе ўчастковага, то выбег затрымаць дзяўчыну. Відаць, што гэты Гарэлаў — чалавек не выпадковы.

Міліцыянты ў судзе засведчылі, што затрымлівалі Крапоціну. Адзін з іх патлумачыў, што тэкст улёткі, як яму падалося, «апазіцыйнага характару», але ніводзін дакладна так і не мог узгадаць, што там было напісана.

У судзе Крапоціна не адмаўляла, што сама надрукавала ўлёткі ў інтэрнэт-кавярні, паклала іх на шкло машыны і гэтым самым спрабавала данесці да грамадзян інфармацыю пра тое, што адбываецца ва Украіне. Але яна так і не зразумела, чым яе дзеянні адрозніваліся ад таго, як людзі штодня кладуць на тыя самыя аўто шматлікія рэкламныя матэрыялы.

Суддзя зачытаў ліст з Міністэрства інфармацыі, у якім гаварылася, што ўлёткі носяць масава-палітычны характар, але ацэнкі зместу ўлётак не давалася. Паводле рашэння суда Вольгу Крапоціну прызналі вінаватай у незаконным вырабе і распаўсюдзе ўлётак. Хоць што незаконнага ў такім вырабе і такім распаўсюдзе?

Крапоціна з рашэннем не пагадзілася і заявіла: «Мне прысудзілі болей, чым я за месяц атрымліваю заробку. Я лічу, што і пратакол складзены на мяне незаконна, і пастанова суда таксама не з'яўляецца законнай, і я буду гэта абскарджваць».

**АК, Гродна**

# Лябедзька: Палітвязень Статкевіч будзе кандыдатам у прэзідэнты

«Мы яго падтрымаем. Мы гатовыя выставіць яго кандыдатам, але разумеем, што яго не зарэгіструюць», — заявіў старшыня АГП Анатоль Лябедзька.

Другім кандыдатам у прэзідэнты будзе сам Лябедзька. Але ён пакідае за сабой права знізца з выбараў. Ініцыятыўная група па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты можа быць створана ўжо сёлета.

Ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч заявіў, што калі палітычныя сілы, якія выступаюць за правядзенне Кангрэсу дэмакратычных сілаў (для абрання на ім адзінага кандыдата ў прэзідэнты), не маюць сваіх кандыдатаў, тады няма сэнсу у гэтым мерапрыемстве.

Нагадаем, прэзідэнцкія выбары ў Беларусі пройдуць у 2015 годзе. Міколу Статкевічу 58 гадоў. Ён падпалкоўнік запасу, экс-кандыдат у прэзідэнты, адбывае шасцігадовы турэмны тэрмін у магілёўскай калоніі.

**Еўрарадыё**

# «Дразды-2» таксама будуць ушчыльняць?

**Генеральны дырэктар банка «Масква-Мінск» Аляксандр Ракавец атрымаў надзел, не пазначаны на плане.**

Элітны катэджны пасёлак у сталічным раёне Вяснінка ўяўляе сабой некалькі дзясяткаў дамоў каля вадасховішча Дразды. Праект забудовы быў прыняты нягледзячы на нязгоду мясцовых жыхароў, агароды якіх аддалі пад будаўніцтва катэджаў для наменклатуры.

Гарадскія ўлады «нарэзалі» больш за 40 новых участкаў, усе яны ўжо атрымалі сваіх гаспадароў (*глядзі спіс*). Аднак і гэтага аказалася мала — забудоўваць пачынаюць ужо і тую прастору, якая на плане пазначаная як зона адпачынку.

**А хто яшчэ?**

У Вяснінцы раздалі зямлю больш чым 40 асобам, перадусім чыноўнікам. Паспелі пабудавацца толькі некаторыя з іх.

**Агееў Аляксандр** — у свой час міністр энергетыкі
**Азаранка Вікторыя** — тэнісістка
**Альшэўскі Віктар** — мастак
**Андрэйчанка Уладзімір** — старшыня палаты прадстаўнікоў
**Анфімаў Леанід** — старшыня Дзяржкантролю
**Бароўскі Аляксандр** — у свой час кіраўнік «Белнафтахіма»
**Булыгін Сяргей** — першы намеснік кіраўніка федэрацыі біятлона
**Вакульчык Валерый** — старшыня КДБ
**Вашчанка Уладзімір** — міністр па надзвычайных сітуацыях
**Грышын Аляксей** — фрыстайліст, алімпійскі чэмпіён
**Гусараў Анатоль** — генеральны дырэктар «Белавія»
**Давыдзька Генадзь** — старшыня Белтэлерадыёкампаніі
**Жылін Ігар** — у свой час кіраўнік «Белнафтахіма»
**Зіноўскі Уладзімір** — кіраўнік Белстата
**Ермакова Надзея** — старшыня Нацбанка
**Зайцаў Вадзім** — у свой час старшыня КДБ
**Зінкевіч Уладзімір** — мастак
**Іваноў Валерый** — у свой час віцэ-прэм’ер
**Казіятка Юрый** — кіраўнік Сталічнага тэлебачання
**Канюк Аляксандр** — генеральны пракурор
**Куляшоў Анатоль** — у свой час міністр унутраных спраў
**Кушнір Антон**– фрыстайліст, алімпійскі чэмпіён
**Ладуцька Мікалай** — у свой час старшыня Мінгарвыканкама
**Маскевіч Сяргей** — міністр адукацыі
**Матусевіч Міхаіл** — у свой час віцэ-спікер савета рэспублікі
**Міцкевіч Валерый** — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Рапота Грыгорый** — дзяржаўны сакратар саюзнай дзяржавы, грамадзянін Расіі
**Рачкоўскі Ігар** — у свой час старшыня Дзяржаўнага памежнага камітэта
**Румас Сяргей** — у свой час віцэ-прэм’ер
**Румо Алег** — доктар
**Русы Міхаіл** — у свой час віцэ-прэм’ер
**Русецкі Анатоль**– у свой час кіраўнік Нацыянальнай акадэміі навук
**Уцюрын Андрэй** — намеснік дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі
**Федарцоў Аляксандр** — першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда
**Харкавец Андрэй** — міністр фінансаў
**Цыцерын Сяргей** — тэнісны трэнер
**Шаеў Валянцін** — старшыня Следчага камітэта
**Шакуцін Аляксандр** — бізнэсмэн
**Швед Андрэй** — старшыня Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз
**Шуневіч Ігар** — міністр унутраных спраў
**Шчоткіна Мар’яна** — міністр працы і сацыяльнага забеспячэння
**Якабсон Аляксандр** — у свой час кіраўнік Дзяржкантролю
**Ярмоленка Анатоль** — спявак



**Дома Ракаўца ў плане не было, а ў рэальнасці ён будуецца.**



На стэндах, якія выстаўляліся на грамадскае абмеркаванне, паўднёвы бок вуліцы Вербнай быў замаляваны дрэвамі. Паводле апорнага плана, ушчыльную да вуліцы падыходзіў участак пад стварэнне фізкультурна-аздараўленчага комплексу.

У рэальнасці ж пачалося будаўніцтва наступнага катэджа. Як стала вядома «НН», ягоны гаспадар — Аляксандр Ракавец. Мінгарвыканкам выдзеліў 15 сотак зямлі рашэннем №1373/1 ад 29 мая 2014 года.

Аляксандр Ракавец — асоба, добра вядомая ў банкаўскіх колах. Ён узначальвае банк «Масква-Мінск». Гэтая фінансавая арганізацыя нядаўна змяніла ўласніка. Нацбанк і Кіраўніцтва справаў прэзідэнта выкупілі актыў у расійскага банка «ВТБ» за $55,7 мільёна, каб вывесці з-пад еўрапейскіх санкцый.

Ракавец узначаліў банк «Масква-Мінск» 14 гадоў таму, а да таго працаваў у іншых фінансавых структурах. У сярэдзіне 1990-х Ракавец быў старшынёй праўлення банка «Садружнасць», а ягоным намеснікам працаваў Сяргей Румас. Перасякаліся яны і ў банку «Паўночны Захад».

Пакуль што Ракавец з падмуркам свайго катэджа абсалютна адзінокі — побач з ім не будуецца ніхто. Але па размяшчэнні дома, які выглядае як крайні на вуліцы, можна меркаваць, што каля яго могуць з’явіцца і суседзі.

**Ягор Марціновіч**

**Фотафакт**



**Каля Палаца незалежнасці пабудуюць амбасаду Казахстана**

Амбасада з’явіцца на скрыжаванні вуліцы Арлоўскай і праспекта Пераможцаў у Мінску, за гандлёвым цэнтрам «Замак».

Архітэктурны праект распрацавала творчая майстэрня Анатоля Цэйтліна. Палац з блакітнымі купаламі мае быць дабудаваны летам 2015 года.

## Сцісла

**Добкін — прадпрымальнік года**

Пераможцам нацыянальнага этапа конкурсу кампаніі «Прадпрымальнік года — 2014» стаў старшыня рады дырэктараў праграмісцкай кампаніі *EPAM Systems* Аркадзь Добкін. Ён прадставіць Беларусь у фінале міжнароднага конкурсу «Прадпрымальнік года», які пройдзе ў Манака ў чэрвені 2015 года.

**«Альфа Радыё» ўвайшло ў склад «Советской Белоруссіі»**

Радыёстанцыя «Альфа Радыё» ўвойдзе ў склад выдавецкага дома на базе газеты «Советская Белоруссия». Гэта вынікае з пастановы ўрада. Год таму «Альфа Радыё» страціла офіс, у якім працавала 14 гадоў. Незадоўга да перасялення радыёстанцыя змяніла фармат. У эфіры засталіся толькі навіны і музыка.

**Першы электрааўтобус у Гродне**

Новы экалагічна чысты від транспарту, які працуе ад электрычнасці, можа з’явіцца ў абласным цэнтры ў маі наступнага года ў якасці эксперыменту.

**Расія абмяжоўвае транзіт прадуктаў з Беларусі**

Увесь дальнабойны транспарт, які перасякае мяжу з Расіяй, будзе наглядацца на расійскім баку, незалежна ад вынікаў праходжання мытні ў Беларусі.

**Чыгунка абяцае давозіць да абласных цэнтраў за 3 гадзіны**

Начальнік Беларускай чыгункі Уладзімір Марозаў заявіў, што рухомы састаў ужо цяпер можа без праблем імчацца з хуткасцю 160 км/г. Аднак пакуль хуткасць складае 100—140 км/г праз састарэлую інфраструктуру. Мадэрнізацыя адбудзецца за дватры гады.

**ЯМ**

# У Чарнігаў вярнуліся беларусы

На чарнігаўскія рынкі вярнуліся купцы-беларусы, у пераважнай большасці — гамельчукі. Прыпынкі Гомеля застракацелі абвесткамі «Шоп-туры ў Чарнігаў». Раней, падчас падзей на Майдане, акупацыі Крыма, АТА, беларусы баяліся ездзіць у Чарнігаў, напалоханыя «жахамі» пра «зверствы бандэраўцаў». З вуснаў у вусны па Гомелі хадзілі байкі, як на тым баку мяжы гвалцяць, забіраюць аўтамабілі «на патрэбы Майдану», прымушаюць стаяць на каленях і спяваць «Шчэ не вмерла Україна!». Ніводны такі выпадак не быў пацверджаны дакументальна. Тым не менш распаўсюджваюцца спецслужбамі байкі множыліся, абрасталі новымі падрабязнасцямі, кшталту: «Ведаеш, там ужо рукі адсякаюць! А ў маладых мужчын забіраюць беларускія пашпарты, рвуць іх і вязуць ваяваць!». Беларуская чыгунка мусіла нават цягнікі «Гомель—Чарнігаў» адмяніць па буднях — не было пасажыраў. Пакінулі толькі рэйс на выхадныя.

Але час ішоў. Байкі аджылі сваё. І беларусы з пустымі торбамі зноў паехалі на базы на вуліцы Шчорса, рынак «Ніва», крамы «Эпіцэнтр» і «Факстрот» у Чарнігаве.

Большасць едзе на аўтамабілях. Гэта тыя, каму шмат чаго трэба набыць. Меншасць — на цягніку. Квіток з Гомеля да Чарнігава каштуе 78 тысяч у адзін бок. У суботу, 22 лістапада, больш за палову месцаў у цягніку было занята пасажырамі без багажу. На зваротным шляху праходы ў вагонах былі застаўлены торбамі і скрынкамі.

| Тавары | Цана, Чарнігаў, грыўны | Цана, Чарнігаў, рублі | Цана, Гомель |
|---|---|---|---|
| Сала | 30—50 | 24—40 тыс. | 80 тыс. |
| Фарш | 43 | 34 тыс. | 80 тыс. |
| Свініна сцягно | 60 | 48 тыс. | 100 тыс. |
| Свініна шыя | 55 | 44 тыс. | 120 тыс. |
| Салямі | 55 | 44 тыс. | 70 тыс. |
| Цукеркі «Шакалапкі» | 56 | 45 тыс. | 70 тыс. |
| «Шалёная пчолка» | 41 | 33 тыс. | 43 тыс. |
| Кава Dallmayr 500 гр. | 90 | 72 тыс. | 120 тыс. |
| Кава Lavazza 250 гр. | 50 | 40 тыс. | 90 тыс. |
| Сыр галандскі | 59 | 47 тыс. | 120 тыс. |
| Макарона ражкі | 7 | 5,6 тыс. | 10 тыс. |
| Грэчка | 9 | 7,2 тыс. | 12 тыс. |
| Мука | 4,8 | 3,8 тыс. | 9,3 тыс. |
| Стронга свежамарожаная | 69 | 55 тыс. | 154 тыс. |
| Каньяк 5 зорак | 75 | 60 тыс. | 120 тыс. |
| Пралка на 6 кг | 3400 | 2,8 млн | 5,5 млн |
| Джынсы | 150 | 120 тыс. | 200 тыс. |

* Цэны пералічаны па курсе 800 беларускіх рублёў за грыўню — за столькі грыўні можна было набыць у гомельскім абменніку 22 лістапада. Прымалі грыўні па 700 рублёў. Даляры па стане на 22 лістапада ў чаргінаўскім абменнік прымалі па 15.30 — 15.60 грыўняў за 1 даляр. Валютчыкі ў цягніку прапаноўвалі памяняць даляры па курсе 16 за 1 даляр.


Горад пасля трагічных падзей у краіне змяніўся: на вуліцах безліч жоўта-блакітных сцягоў.



Пастамент, на якім быў Ленін, упрыгожаны патрыятычнымі надпісамі і вершамі.

Карыстаецца сталым попытам у беларусаў будаўнічая крама «Эпіцэнтр». Адтуль вязуць, напрыклад, шпалеры, якія можна набыць удвая танней, чым у Гомелі. У «Факстроце» можна атаварыцца бытавой тэхнікай, трапіўшы на акцыі і распродажы. Па рынках шукаюць танную вопратку і абутак, а таксама прадукты: каву, гарбату, цукеркі, грэчку, алкаголь і так далей.

Правозіць праз мяжу можна без сплаты мыта 50 кг на чалавека і 35 кг — непадзельнага тавару, напрыклад, швейную машыну ці невялікую пральную.

Чарнігаў — не заштатны правінцыйны горад. У гэтым упэўнішся, калі збочыш ад ажыўленых рынкаў і крамаў на Дзядзінец (Вал). Тут размешчаны Спаса-Праабражэнскі (XI стагоддзе) і Барысаглебскі (XII стагоддзе) саборы, Кацярынінская царква, помнік Тарасу Шаўчэнку, дом калегіума, палкавой канцылярыі. Напэўна, няма лепшага месца для медытатыўнага адпачынку, як гарадскі вал. Адсюль адкрываюцца маляўнічыя краявіды на старажытныя кляштары.

У горадзе ёсць што пагледзець і ёсць дзе адпачыць. Шматлікія кавярні ў цэнтры змагаюцца за наведвальнікаў, прыманьваюць іх незвычайным інтэр'ерам, смачнымі і недарагімі стравамі. Так, чабурэчная «Джэнтльмены ўдачы» афармлена ў турэмным стылі. Над уваходам размешчана вышка з калючым дротам і вартавым. Унутры — «нары», «параша», адпаведныя назвы страў і рахунак-«прысуд».

Шмат кавы, розных гатункаў, на ўсе густы чакае наведвальнікаў у «Чашцы».

Па горадзе параскіданыя розныя піцэрыі, сушы-бары, гламурныя рэстараны.

Танна і смачна можна падсілкавацца ў кавярні «Варэнічная», якая абяцае накарміць чарнігаўскімі стравамі. Цэны тут даволі стрыманыя: дранікі за 17 грыўняў (11 900 беларускіх рублёў), варэнікі з яблыкамі — 19 грыўняў (13 300 рублёў), кава — 10 грыўняў (7 000 рублёў), зразы з мясам — 20 грыўняў (14 000 рублёў), боршч — 19 грыўняў (13 300 рублёў), патэльня з блінцамі, качкай і вантробамі — за 38 грыўняў (26 600 рублёў).

Горад пасля трагічных падзей у краіне вонкава змяніўся. Зараз на вуліцах безліч жоўта-блакітных сцягоў, на балконах, на флагштоках. Жоўта-блакітнымі стужкамі абвязаны металічныя агароджы, у колеры нацыянальнага сцяга размаляваны падземныя пераходы і масты.

На цэнтральнай плошчы ўсталяваны стэнды са здымкамі і біяграфіямі ўкраінцаў, якія загінулі ў зоне АТА. Шмат тут і чарнігаўскіх, у асноўным з вёсак і райцэнтраў. Побач — стэнд са здымкамі герояў Нябеснай сотні.

Каля цэнтральнага рынку валанцёры збіраюць грошы і рэчы на дапамогу 13-му батальёну. Тут жа — вайсковыя ў форме.



Каларытная чабурэчная «Джэнтльмены ўдачы», аформленая як турма.



На цэнтральнай плошчы — стэнды са здымкамі ўкраінцаў, якія загінулі ў зоне АТА.

Суб'ектыўна — на вуліцах горада зараз больш размаўляюць на ўкраінскай мове. Пастамент, на якім раней стаяў Ленін, упрыгожаны патрыятычнымі надпісамі і вершамі.

Горад і яго жыхары змяніліся. Пра гэта гаворыць і беларускі пісьменнік Уладзіслаў Ахроменка, які жыве ў Чарнігаве ўжо 17 гадоў. Па яго словах, у сярэдзіне 90-х Чарнігаў быў горадам, які пераважна жыў «чаркай і скваркай» і нагадваў Рэчыцу ці Мазыр, нават не Гомель. «Але пасля Рэвалюцыі Годнасці я ў мясцовых жыхарах адкрыў такія рысы, якія нават не думаў што ёсць у гэтых людзей. Па-першае, гэта неверагодная салідарнасць. Скажам, калі пачаўся Майдан у Кіеве, тут таксама быў свой Майдан каля адміністрацыі. Як у Кіеў, сюды вырашылі панавозіць «цітушак». Сярод чарнігаўскіх аказалася вельмі мала «цітушак», якія б пагадзіліся біць так званых бандэраўцаў, а тых, хто пагадзіўся, людзі лавілі па пад'ездах і так «мякка» тлумачылі, што так рабіць не трэба. Усіх фатаграфавалі і потым на гарадскіх рэсурсах апазнавалі», — узгадвае пісьменнік.

Зараз ён бачыць, што ў горадзе неверагодны валанцёрскі рух, неверагодная салідарнасць. Вельмі шмат людзей ці на фронце, ці ў валанцёрах.

«Я прадбачыў пытанне, ці магчыма тут стварыць нешта падобнае да «ЛНР» і «ДНР». Гэта немажліва ў прынцыпе. Недзе месяцы два таму на ўскраіне горада з'явіліся двое хлопцаў, якія былі нейкія неадэкватныя, раздавалі самаробныя каларадскія стужкі. І давалі яшчэ грошы за тое, каб людзі бралі іх. Хлопцам гэтым адразу надавалі па галаве мясцовыя рабацягі, потым прыбеглі мянты, якім рабацягі іх здалі. Мянты ім таксама надавалі па галаве і здалі ў СБУ», — апавядае Уладзіслаў Ахроменка.

Да яго неяк на вуліцы падышлі дзве цёткі. Па іх акцэнце, па тварах распазнаў сваіх, гомельскіх. Яны шэптам запыталіся: падкажыце, дзе можна харошага віна купіць? Пачуўшы адказ на ўкраінскай мове, жанчыны сумеліся: ізвініце, мы не панімаем... «Тады адказваю па-беларуску — у іх квадратныя вочы, але, як ні дзіўна, таксама перайшлі на беларускую. Пытаюся: а чаго вы так шэптам, можаце па-руску ў мяне пытаць. А яны: «У вас тут Частный сектор машины отбирает, очень многих избили, по телевизору говорили...» Усё з-за гэтых ідыёцкіх чутак, якія ходзяць па Беларусі і па Гомелі. Хлопцы і дзяўчаты, нікому не верце, прыязджайце, купляйце, сябруйце!» — заклікаў Уладзіслаў Ахроменка.

Ён лічыць, што чарнігаўскія ўкраінцы вельмі падобныя да нас, хоць ментальная розніца, вядома ж, ёсць. Але калі ўзяць украінцаў палтаўскіх ці чаркаскіх, ці з Заходняй Украіны, яны моцна адрозніваюцца ад беларусаў. Ёсць адрозненні і ў лепшы, і ў горшы бок ад нас. «Украінцы значна больш гасцінныя і адкрытыя, больш шчырыя, а беларусы больш замкнёныя, як яйка ў сваёй шкарлупіне, мала ўсміхаюцца, баяцца выяўляць свае эмоцыі. А па мове і па ментальнасці ўкраінцы, мажліва, самы блізкі і самы братні для нас народ», — разважае суразмоўца.

Чаму ж тады ў нас пакуль няма такой салідарнасці? «А ў Беларусі проста не было яшчэ такой нагоды для кансалідацыі нацыі і людзей незалежна ад мовы, на якой яны размаўляюць. Зараз Расія з яе неадэкватным кіраўніцтвам выканала для ўкраінцаў тую самую ролю, якую выканалі арабскія тэрарысты для Ізраіля. Думаю, рана ці позна ў Кіеве будзе пастаўлены помнік аднаму персанажу, які «ла-ла-ла», з надпісам «За кансалідацыю ўкраінскай нацыі», — дадае Уладзіслаў Ахроменка.

**Юлія Шымкевіч,**
**Чарнігаў—Гомель**

# Суд замяніў жорсткае пакаранне на мяккае

Спачатку хлопца адправілі за краты, а цяпер выпусцілі пад падпіску.

Падчас разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе адбылася неспадзяванка: 24 лістапада прынята рашэнне выпусціць з ізалятара асуджанага, а справу накіраваць на новы разгляд. Такое ў беларускай судовай практыцы адбываецца крайне рэдка. Адзін суддзя паправіў другога.

Гісторыя пачалася 22 сакавіка. Тады каля сталічнага парку Горкага адбылася бойка. Два пенсіянеры ішлі па вуліцы, а насустрач ім кампанія з трох хлопцаў. Але не змаглі разысціся і зачапілі адзін аднаго. Маладзён палічыў сябе пакрыўджаным і ўдарыў мужчыну ў твар. Той ад моцнага ўдару паваліўся і стукнуўся галавой аб асфальт. Тады прыяцелі задзіры наскочылі на другога пенсіянера. Спыніць гвалт атрымалася толькі крыкамі: побач праходзіла дзяўчына, якая закрычала і выклікала міліцыю.

Спачатку міліцыя сама шукала нападнікаў. А калі не здолелі ўласнымі сіламі даць рады, звярнуліся да мінчукоў. Відэа з меркаванымі нападнікамі размясцілі ў інтэрнэце і паказалі па тэлебачанні. Пасля сюжэта па ТБ хлопцы самі прыйшлі «здавацца». Вось толькі віны ніякай за сабой не адчувалі, казалі, што ў бойцы не ўдзельнічалі. А ў адказ іх зрабілі абвінавачанымі.


Эдуард і Яўген засталіся на свабодзе. Сябра Аляксандра вось-вось выпусцяць.

Аляксандр, Яўген і Эдуард — навучэнцы Юрыдычнага каледжа БДУ. Відэа менавіта з імі паказвалі міліцыянты. Калі пачалі разбірацца, аказалася, што пенсіянеры, адзін з якіх з'яўляецца майстрам спорту па цяжкай атлетыцы, у той вечар былі нападпітку: выпілі на дваіх літр віскі. А апісанні нападнікаў, якія давала дзяўчына-сведка, разыходзяцца з тымі, што можна бачыць на відэа. Праўда, адзін з пенсіянераў на вочнай стаўцы пазнаў двух хлопцаў. Той, які стукнуўся галавой, нічога не мог расказаць пра бойку — не памятаў. Пенсіянеры хутка згубілі цікавасць да судовага працэсу, давесці справу да канца патрабавала дзяўчына-сведка.

Пракурор прапанаваў ізаляваць хлопцаў на 6—8 гадоў. І прысуд быў жорсткім. Аляксандра адправілі на 5,5 года ў калонію: прызналі, што менавіта ён ударыў пенсіянера ў твар. Яўген атрымаў 2,5 года ўмоўна, а Эдуард быў амніставаны, паколькі быў яшчэ непаўналетнім — дваіх апошніх прызналі вінаватымі ў групавым хуліганстве.

Пасля разгляду касацыйнай скаргі Яўгену і Эдуарду прысуды пакінулі без змен. Аляксандра ж выпусцілі з СІЗА пад падпіску, а тэрмін змянілі — да 2,5 гадоў абмежавання волі.

Аднак справу чакае новы разгляд.

**Кастусь Матушыч**

# Справа з шынамі

Спачатку даказаў сваю невінаватасць, а цяпер выкрывае іншых.

У Рэдакцыю звярнуўся жыхар Івацэвіцкага раёна Віктар Якімовіч. Пяць гадоў яго падазравалі ў крадзяжы, а пасля аказалася, што крадзяжу і не было. Цяпер ён сам дамагаецца, каб яго прызналі пацярпелым.

Яго справа — водгулле 1990-х. Віктар працаваў камерцыйным дырэктарам у прыватнай кампаніі. Шукаў рынкі збыту. І падчас адной з паездак у Ніжнякамск у 1997-м купіў там вялікую партыю аўтамабільных шын — 130 штук. Палову прывёз адразу на працоўным транспарце ў Беларусь, астатняе пакінуў там.

Але ўзніклі непаразуменні з дырэктарам. Той меркаваў, што шыны належаць яго фірме, а таму і цягач павінен прыехаць да яго. Разбіраліся па правілах таго часу: да Віктара падсылалі «чачэнаў», ён шукаў заступнікаў сярод сваіх. Пакуль цягнуліся разборкі, дырэктар падаў заяву ў міліцыю. У 2001-м на Якімовіча завялі крымінальную справу.

Віктар палову шын паставіў на МАЗ, а ўзамен яму павінны былі перадаць седлавы цягач і два паўпрычэпы — па бартары. Тут і пачаліся новыя праблемы. Дакументы на тэхніку бізнэсовец перадаў знаёмаму берасцейцу: меркавалі разам ехаць забіраць, але ў Віктара не атрымалася, а дакументы так і засталіся ў знаёмца (але даверанасць ён не выпісваў). Але праз нейкі час высветлілася, што тэхніку з МАЗа ўсё-такі забралі. Толькі да ўласніка яна не даехала.

Віктар ж «шылі» крадзеж: шыны ацанілі амаль у 700 мільёнаў рублёў — па курсе 1997 года каля $25 тысяч. Але дырэктар пасля напісаў адмову ад прэтэнзій — маўляў, памыляўся ў сваіх абвінавачаннях. Тым не менш справу не спынілі, а перадалі ў вобласць. Цягнулася расследаванне. Толькі ў 2003-м Віктар у матэрыялах справы ўбачыў даверанасць, выпісаную на прозвішча Баранава, на атрыманне тэхнікі з аўтазавода. Кажа, што яна падробленая. Пачалі разбірацца. Але следчыя ўзадзін голас па выніках шэрагу экспертыз заявілі, што пячатка на дакуменце сапраўдная. Хоць прызналі, што пашпарт з указанымі нумарам і серыяй у даверанасці ў Беларусі ніколі не выдаваўся. Не адшукаўся Баранаў і ў Расіі.

Бізнэсовец лічыць, што даверанасць узнікла для таго, каб схаваць крадзеж. А справу выставіць так, што Якімовіч сам перадаў цягач і прычэпы нейкім людзям. Але ён пачаў дабівацца экспертызы дакумента: ведаў, што нічога падобнага не выпісваў. А ў 2006-м супраць мужчыны спынілі крымінальную справу за адсутнасцю складу злачынства. То бок ён нічога не краў. Толькі вось застаўся без тэхнікі — яму адмовілі і ў расследаванні гэтай справы.



Але Віктар пачаў дабівацца экспертыз даверанасці. Бо мяркуе, што супрацоўнікі з органаў могуць мець дачыненне да фальсіфікацыі. Следчыя на падставе заключэнняў экспертаў канстатавалі, што пячатка на даверанасці сапраўдная. Віктар даводзіць адваротнае. Ён нават купіў спектральную лупу, якой карыстаюцца адмыслоўцы. Кажа, што пячатка надрукавана на прынтары. «Сапраўдны адбітак пячаткі ляжыць на паперы, а сканаваны-прынтарны «хаваецца», ідзе ўнутр паперы. Таму і колеры мяняюцца, яшчэ ж і фарбавальнікі розныя».

Віктар дамагаецца прыёму ў высокіх кабінетах сілавікоў, каб усё патлумачыць. Але адзначае, што ніхто не хоча сур'ёзна заняцца яго справай.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### 70-гадовы пагарэў з прастытуткай

У верасні ў Рэчыцы распачатыя дзве крымінальныя справы па факце свядомага пастаўлення іншага чалавека ў небяспеку заражэння ВІЧ-інфекцыяй. Такім чынам 25-гадовая мясцовая жыхарка помсціла мужчынам. Яна была на дыспансерным уліку, аднак працягвала практыкаваць неабаронены сэкс — займалася прастытуцыяй. Пацярпелымі па справе праходзяць мужчыны 29, 50, 63 і 70 гадоў. Экспертыза пакажа, ці заразіўся хто з іх.

### Засекла мужыка

54-гадовы віляйчук спрабаваў забраць у жонкі грошы, каб купіць гарэлку. А кабета, стаміўшыся ад п'янства сужэнца, засекла яго. Жанчына сама выклікала міліцыю. Але паведаміла, што знайшла мужа з рассечанай галавой у гаспадарчай прыбудове. Акалічнасці здарэння раскрылі хутка. Высветлілася, што муж сам пагражаў сякерай 74-гадовай жонцы, калі спрабаваў забраць сумку з грашыма. Але жанчына аказалася спрытнейшай — выхапіла сякеру і некалькі разоў стукнула яго па галаве.

### Загарэўся тралейбус

21 лістапада сталічны тралейбус 59-га маршрута загарэўся проста падчас руху па Партызанскім праспекце. Да прыезду пажарных паспела выгарэць толькі кабіна кіроўцы. Ніхто не пацярпеў. Мяркуецца, што прычынай пажару стала кароткае замыканне праводкі.

### Фура расплюшчыла легкавік

Раніцай 21 лістапада кіроўца грузавога аўтамабіля «Рэно-Магнум» каля вёскі Ельнікі Талачынскага раёна не даў рады кіраванню, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з «Таётай Авенсіс». Кіроўца і пасажыр «Таёты» загінулі (**на фота**).

### Пасадзілі школьніка

За незаконны зварот асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў асуджаны старшакласнік адной са школ Баранавіч. 16-гадовы дзесяцікласнік набыў праз інтэрнэт курыльную сумесь і прынёс яе ў школу. У яго пры сабе знайшлі 18 грам спайсу (больш за 100 доз). За краты яго адправілі на 8 гадоў.




### Забіў 69-гадовую дзеля спайсу

У падвале шматкватэрнага дома ў Слуцку міліцыя знайшла цела 69-гадовай жанчыны. Па падазрэнні затрымалі 19-гадовага хлопца ўнучкі забітай. Высветлілася, што малады чалавек прыйшоў да пажылой жанчыны, падманам завабіў яе ў падвал дома, дзе некалькі разоў ударыў па галаве сякерай і сапёрнай лапаткай. Падняўся ў яе кватэру і скраў 300 тысяч рублёў, $80, два залатыя пярсцёнкі, завушніцы, крыжык і ланцужок. Грошы патраціў на спіртное і спайс.

### Збіў школьніцу і закінуў у фургон

Вучаніца 4-га класа загінула пад коламі грузавой машыны ў Лідзе. ДТЗ адбылося 21 лістапада на пешаходным пераходзе. Відавочца паведаміў, што грузавы фургон «Мерсэдэс» пераехаў дзяўчынку і правалок за сабой. Калі знайшлі «Мерсэдэс» у адным з двароў, аказалася, што цела дзяўчынкі — унутры фургона. Падазраваны — 43-гадовы мінчук.

**КМ**

# Скандал: «Місіс свету — 2014» аказалася самазванкай

Марына Аляксейчык **не мела дачынення** да Беларусі.

20 лістапада інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што беларуска Марына Аляксейчык выйграла конкурс прыгажосці «Місіс свету — 2014», што праходзіў у амерыканскім штаце Мэрыленд.

Аляксейчык 31 год. Яна выйшла замуж чатыры гады таму. Цяпер працуе тэлевядучай і выступае на сцэне ў якасці спявачкі.

Праўда, пазней высветлілася, што ад Беларусі яе ніхто не адпраўляў на конкурс. «Мы гэтую дзяўчыну не ведаем. Мы нават не ведалі, што такі конкурс будзе праходзіць», — адзначыла прэс-сакратар АНТ, тэлеканала, які праводзіць беларускія конкурсы прыгажосці.

Марына Аляксейчык жыве ў Маскве, а раней жыла ў Томску. Там яна нават выйгравала ў конкурсе «Міс Томск», а потым узяла тытул віцэ-міс на «Міс Сусвет — Расія». У беларускіх адборах яна ніколі не брала ўдзелу.

**Лявон Максюта**




**Фотафакт**



**Дворнік у Мінску высыпаў кантэйнер са смеццем на «Фальксваген»**

Калі лянота прайсціся сотню метраў і хочаш паркавацца бліжэй да пад'езда за кошт інтарэсаў іншых людзей, тады чакай, што яны «аддзячаць» табе, як гэтаму мінскаму кіроўцу. Ён з вечара паставіў свой легкавік так, што машына жылкамунгаса не змагла вывезці смецце са двара жылога дома.

Расплата не прымусіла сябе чакаць.

Часцяком такія «паркоўшчыкі» ссоўваюць у бок спецыяльныя паўшар'і, каб лягчэй было ставіць машыны там, дзе гэта забаронена.

Кіроўца смеццявоза некалькі разоў пляскаў па машыне, гучала сігналізацыя, але гаспадар так і не з'явіўся. Тады знерваваны дворнік высыпаў змесціва смеццевага бака на капот.

# З адрасоў МЗС Расіі і ВГТРК перапісваюць іншамоўныя Вікіпедыі пра Данбас і «Боінг»

Мадэратар англамоўнай Вікіпедыі паведаміў у *Twitter* аб палітызаваных праўках у артыкулах пра Данбас. Пазней быў знойдзены шэраг артыкулаў, выпраўленых падобным чынам. Праўкі сыходзілі з IP-адрасоў Міністэрства замежных спраў Расіі.

Незарэгістраваныя карыстальнікі рабілі 17—18 лістапада праўкі накшталт замены фразы «расійскія акупацыйныя войскі» на «мясцовыя апалчэнцы» ў артыкуле пра Данецкі каменнавугальны басейн.

Любы ахвотны можа рабіць ананімныя праўкі ў Вікіпедыі. Але ў такім выпадку фіксуецца IP-адрас, з якога яны робяцца. Па IP-адрасе нельга вызначыць канкрэтнага чалавека, які сядзеў за камп'ютарам, але можна вызначыць арганізацыю, якой належыць шэраг IP-адрасоў.

Найбольшы розгалас атрымала праўка з IP-адраса Усерасійскай дзяржтэлерадыёкампаніі: у артыкуле пра катастрофу малайзійскага «Боінга» нехта замяніў падазраваных з «тэрарыстаў ДНР» на «ўкраінскіх вайскоўцаў».

**Алесь Жарскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Іван, калодзеж і анёл

На мінулым тыдні я ездзіў у вёску Далёкія, што на Браслаўшчыне.

Па геаграфічных прыкметах не такая ўжо і далёкая — якіясь 7 кіламетраў ад Опсы — мястэчка, праз якое па вялікай шашы звычайна едуць у райцэнтр. Цяпер шаша ў асфальце. А паўвека таму на Браслаў паўзла шчэ не пабітая бруканка. Што праўда, на Браслаў ездзіў зрэдку, бо настаўніцкай працы ў Далёкіх было шмат. А вось на Опсу — штотыдзень. Ці то на ровары, ці то на матацыкле, які ахвотна пазычаў Іван, а калісь і на грымучым «газоне» з цыстэрнай, на каторым Іван вазіў у Далёкія са спіртзавода ў Відзах барду. Але часцей за ўсё я хадзіў у Опсу пешшу.

Мне падабалася хадзіць у Опсу пешшу. Падабалася вітацца са старымі бярозамі, якія разам з прасёлкам узбіраліся на пагоркі, з паперакручанымі на вятры соснамі... Так, я ведаў кожнае дрэва на прасёлку з Далёкіх у Опсу. І чым больш працяглым быў той шлях, тым мацней нарастала хваляванне ад сустрэчы з сябрамі, такімі ж настаўнікамі, што, як і я, па ўласным жаданні размеркаваліся ў тыя мясціны...

Паўвека таму шляхам называў той прасёлак стары, мо ўжо за 80, далёцкі ксёндз. З восені апранаўся чамусьці ў ватоўку і чырвонаармейскую вушанку з цемнаватым адбіткам колішняй зоркі. Калі-нікалі ён нібыта падпільноўваў цябе за ваколіцай, вітаўся, сцягваючы вушанку з сівой галавы, і пытаўся: «А ці не муве пан, дзе тут шлях да Варшавы?» Я паказваў у бок пасвосенску бляклага сонейка, што ўжо хілілася да захаду. «А да Пецярбургу?» — падслепавата прыжмурваўся ксёндз...

Касцёл у Далёкіх існуе і сёння. А вось школу сёлета зачынілі. Таму і еду ў Далёкія. Па тым жа шляху, які ані тым жа, ані ўвогуле шляхам назваць цяжкавата — траская, бы пральная дошка, запыленая гравійка. Ані дрэўца абапал, ані тых бярозаў ды соснаў...

**Я ведаў кожнае дрэва на прасёлку з Далёкіх у Опсу**



Еду я да Івана, адзінага з тых часоў сябра, што жыве цяпер у Далёкіх. Калі-нікалі я, вядома, у Далёкія наязджаў, сёе-тое пра вясковае ды Іванава жыццё ведаў. Але цяпер было чамусьці такое адчуванне, што не быў там усе пяцьдзясят гадоў. І разам з тым — наадварот: нібыта тых пяцідзесяці гадоў і не было.

Я здагадваюся, з чаго адбылося тое дзіўнаватае спалучэнне адчуванняў — з фіранкі, што нерухома павісла за запыленай шыбай старой, за сто гадоў дакладна, хаты насупраць Іванавай. Тая ж фіранка, тыя ж карункі на ёй... «Не, тут ніхто не жыве, — тлумачыць Іван. — Як пачалі вучняў вазіць аўтобусам, зімовы інтэрнат зачынілі... І ў тваім пакойчыку, як ты з'ехаў, ніхто не жыў...»

Як з'ехаў... Мне 23, Івану — 27, шафёрствуе ў калгасе. Калі з'язджаў, падарыў Івану электрабрытву «Харкіў», на памяць. З той памяці праз колькі год — хата, напалову абкладзеная белай цэглай, шыльда на хаце — «Цырульня», зялёным па чырвоным... Цяпер смяецца: «Нічога з таго цырульніцтва не выйшла... Вярнуўся ў калгас, на трактар. Ну а потым — у школу, настаўнікам працы ды машыназнаўства. 33 гады, да званочка... 80 працэнтаў маіх выпускнікоў працавала ў калгасе. А сёння...» — Іван расчаравана махнуў рукой.

Пра тое, чаму сёння памерла школа і памірае вёска — асобны аповед. А пакуль — пра Івана. Узяў пад руку, вядзе па Далёкіх, па падворках кінутых хат, знаёміць з новымі вяскоўцамі, бо нікога, каго ведаў калісь, нават нікога з маіх вучняў, у Далёкіх няма. І дзве Іванавы дочкі разляцеліся па свеце — адна, пажыўшы ў Чэхіі, прытулілася да Віцебска, другая ўгразла ў Грэцыі. «Ага, цяжка ёй там, — уздыхае Іван, — ой, цяжка... А я, скажу табе, у дзяцінстве быў на крок ад смерці. Вось тут, дзе быў калодзеж. Мо памятаеш?»

Як жа ж не памятаць той калодзеж? Зімовым ранкам адхінеш коўдру, скінеш паліто, якім хаця б троху бараніўся ад марозу, ад якога за ноч выстуджвалася жытло, ногі ў валёнкі, за вядро — і да калодзежа. Ён увесь у лёдзе, нібы ў казачнай пячоры, зіхаціць пад ранішнім Месяцам... І — да поясу. Каб прачнуцца і жыць.

«...у 43-м было, пяць гадоў мне. Калодзеж тады быў абгароджаны плоцікам. А побач — купка пяску. Ну, гуляю ў пясочку, і бачу — самалёцік ляціць. Ага, нямецкі, нават крыжы відаць. Ага, я ручкай яму, а ён як гваздане з кулямёта! Ад плоціка толькі трэскі і разляцеліся... Потым я тыя кулі, вялікія такія, пазбіраў... І чаго ён па мне лупіў? Ды мо анёл выратаваў... Мой анёл-абаронца... А вось тут, побач, яшчэ хата стаяла. Ага, паліцаева хата. Дык партызаны і хату спалілі, і паліцая забілі, і жонку з дзецьмі расстралялі... Я вось думаю: а дзяцей з матуляй — за што?»

...Да нейкай чарговай пераможнай гадавіны калодзеж засыпалі, а на ягоным месцы паставілі помнік загінулым землякам. Не ўсім. Толькі тым, каго, мусіць, у 44-м забралі ў савецкае войска. Інакш з чаго гэта насупраць прозвішчаў адзін год нараджэння? А так — помнік як помнік, якіх шмат па беларускіх вёсках.

Гляджу на Івана, на помнік і думаю: як яно добра было б, калі б замест жаўнера з аўтаматам лунаў тут нябачны белы анёл.

Мо і землякі былі б жывыя, і вада ў калодзежы, і школа, і вёска...

*kamerton_41@mail.ru*

# Прыгажосць па-беларуску

## Айчынныя мадэлькі на замежных подыумах

Беларускія мадэлькі надзелі майкі з арнаментам і зняліся для «глянцу». Праўда, пакуль толькі беларускага. Малы крок зроблены — сусветна вядомы рэпер Снуп Дог выпусціў калекцыю «*Snoop Loves Belarus*». Ці пашырыцца трэнд з нацыянальнымі ўзорамі на сусветную моду?

Шанец заўжды ёсць. Арнамент — гэта цікава і нетыпова. І дэфіляваць ёсць каму. Прыгажосць беларусак шануюць не толькі замежнікі, якія наведваюць гламурныя мінскія клубы.

«Наша Ніва» знаёміць з самымі вядомымі беларускімі топ-мадэлямі. Хто ведае, можа неўзабаве і яны «адчуюць, як сэрца начамі...».


I919.PHOTOBUCKET.COM.

**Марына Лінчук**

25-гадовая дзяўчына сёння на самай вяршыні мадэльнага бізнэсу і ўжо даўно перайшла ў разрад топ-мадэляў. У Мінску прапрацавала зусім нядоўга. У 15 гадоў паехала ў Маскву. Пасля яна больш за два гады працавала ў Японіі, потым заваявала Еўропу і Нью-Ёрк. Лінчук здымалася для «Версачэ», «Дольчэ і Габана» і іншых брэндаў з сусветным імем. Марына яшчэ і з'яўляецца тварам «Крысціян Дыёр».

Прыгажуня валодае англійскай і японскай мовамі, аддае перавагу вегетарыянству.

Лінчук жыве ў Нью-Ёрку, але бывае і ў Беларусі — летам частку адпачынку яна правяла ў Ракаве, пад Мінскам.



**Каця Даманькова**

Яе шлях у сусветны мадэльны бізнэс пачаўся ў 2006. Тады 17-гадовая Каця выйграла прэстыжны конкурс «Супермадэль свету» ў Нью-Ёрку. Яе запрашалі для фотасесій часопісы *ELLE*, *Marie Claire*, яна прадстаўляла брэнд «Тодс» і здымалася для каталога *H&M*. Удзельнічала ў паказах «Армані» і «Вікторыя Сікрэт».

Цяпер Каця замужам за расійскім мільянерам, уладальнікам футбольнага клуба «Рэдынг» англійскай прэм'ер-лігі Антонам Зінгарэвічам. Каця працягвае працаваць мадэлькай, але, па яе ж словах, не надта актыўна.



**Анастасія Белікава**

Першая беларуска, якая трапіла на вокладку *Vogue*, уваходзіла ў топ-50 самых запатрабаваных мадэляў свету. Мадэльная кар'ера Белікавай пачалася з кастынгу ў Брэсце. Тады ёй было 15 гадоў. Ужо праз чатыры гады яе імя стала вядомым ва ўсім свеце.

Як і Марына Лінчук, першы час працавала ў Японіі. Яна сама сцвярджае, што заваяваць еўрапейскі свет моды ёй дапамаглі батфорты: багаж з туфлямі на абцасах згубілі, і на кастынгу «Прада» давялося быць у такім нетыповым для мадэляў абутку. Аднак менавіта боты (разам з выглядам, канечне) спадабаліся Міучэ Прада.



**Каця Хлябанава**

Пішуць, што гэта любімая мадэль Джорджа Армані. І, напэўна, першая беларуская мадэль, якая дасягнула такога поспеху ў індустрыі моды. Дзяўчына пачала з'яўляцца на подыумах яшчэ ў 2000. Мадэльную кар'еру скончыла ў 2005. Цяпер жыве ў ЗША, гадуе траіх дзяцей.



**Таня Дзягілева**

У 2010 годзе часопіс *Esquire* склаў сэксуальную мапу свету — Таня Дзягілева на ёй прадстаўляла Беларусь. Працуе для сусветных брэндаў з 2006, тады ёй было пятнаццаць. Цяпер з'яўляецца на паказах «Шанэль», «Крысціян Дыёр», «Версачэ», «Прада».



**Наталля Рамарчук**

Лічыцца адной з найбольш перспектыўных беларускіх мадэляў. У яе класічная і адначасова казачная гісторыя поспеху — заўважылі ў мінскім метро, а праз паўгода яна прадстаўляла калекцыі «Прада» і «Дыёр» у Нью-Ёрку. Ёй было 17 гадоў. А быў гэта 2013.

**Іван Шыла**

# Дзядзька Алег: «У свеце ўсім кіруе сіла»

Калі ты беларус і хоць неяк **звязаны з двубоямі**, ты будзеш ведаць гэтага чалавека.

У англічан ёсць *Lonsdale*, у амерыканцаў — *Everlast*, у беларусаў жа свая ўжо амаль легендарная марка — нашыя байцы ў асноўным экіпіраваныя ў тое, што дзядзька Алег Радзюк робіць сваімі рукамі — гэта і пальчаткі, і шлемы, і лапы, і ўсё астатняе, неабходнае для трэніровак. Акрамя гэтага ён вучыць боксу юнакоў і з'яўляецца паважаным заўзятарам мінскага футбольнага «Тарпеда». Дзядзька Алег поіць нас гарбатай і дае вялікае інтэрв'ю на беларускай мове.



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

### Булат, БДУІР, не пamрэш

**«Наша Ніва»: Як я разумею, выраб экіпіроўкі — гэта Ваш асноўны занятак?**

**Алег Радзюк:** Так, адзіны.

**«НН»: Цяжка?**

**АР:** Усё залежыць выключна ад цябе. Ты і фабрыка, і збыт, і рэклама, і менеджмент, і працоўная сіла. Ты павінен адказваць за ўсё. Але ў той жа момант ты вольны, таму мне гэта падабаецца.

**«НН»: А які асноўны кантынгент кліентаў?**

**АР:** У мяне бываюць усе: звычайныя хлопцы, спартоўцы, вайскоўцы, міліцыянты. Напрыклад, добра знаёмы з нашым чэмпіёнам Юрыем Булатам. Галоўнае, што ўсе людзі добрыя, бо ўсе, хто займаецца двубоямі, ведаюць, што гэта такое, і яны спакойныя адэкватныя людзі.

**«НН»: Бачыў нават, як людзі здавалі на крапавы барэт у Вашай экіпіроўцы.**

**АР:** Калі ты робіш добра нейкі прадукт, то людзі расказваюць адзін аднаму, звесткі разыходзяцца.

**«НН»: Гэтым можна шмат зарабіць?**

**АР:** Вы ж бачыце, як я жыву. Жонка, двое дзяцей. Жонка мне дапамагае ў працы — мы ўсё робім разам. Але іншым разам рука баліць так, што спаць не можаш. З голаду, канечне, не памрэш. Але калі б я так шмат зарабляў, дык сам не працаваў бы ўжо. Ды і не так лёгка ўсё гэта.

**«НН»: А дзеці Вашыя дзе?**

**АР:** Сын скончыў наш Радыётэхнічны ўніверсітэт, а зараз навучаецца на японістыцы ў Варшаўскім універсітэце. А дачка вучылася ў Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа, а цяпер таксама ў Варшаве — праходзіць навучанне ў Гандлёвай школе. Характары ў іх моцныя.

### «Гарызонт», 40 сантыметраў, мітынгі

**«НН»: Як Вам увогуле прыйшла ідэя рабіць прылады для двубояў?**

**АР:** Пасля таго, як у СССР забаранілі каратэ і зачынылі для цывільных залу на стадыёне «Дынама», мы адправіліся займацца ў клуб «Гарызонта». Там быў такі добры дзядзька — Яўген Паўлавіч Крапіўны. Называлася ўсё гэта «рукапашны бой і АФП», але заняткі былі тыя ж, што і раней. І ў нас заўжды не хапала інвентару, бо ў саўдэпіі гэтым займалася толькі адна кіеўская фабрыка. Вось тады мы з яшчэ некалькімі хлопцамі пачалі спрабаваць вырабіць нешта сваё. Адразу было цяжка, а пасля неяк пайшло. Спачатку нас было пяцёра, але з часам людзі адыходзілі. І вось цяпер нас засталося толькі двое, але мы ўжо займаемся гэтай справай паасобку.

**«НН»: А Вашыя першыя пальчаткі засталіся?**

**АР:** Вось тыя самыя, са свіным воласам. Яны былі вельмі нязручныя, вельмі смешныя, вельмі небяспечныя. Усе, хто ў той час займаўся боксам, выдатна іх памятаюць. Імі вельмі нязручна было працаваць, бо гэты волас не выкладваўся раўнамерна, было цяжка дакладна накіроўваць руку. Гэта быў той самы 1981 год, калі мы пайшлі з «Дынама». Тады закупілі трохі гэтых пальчатак, але іх рэальна было вельмі мала. Нехта расказваў, што трэнеры іх рэзалі і шылі з іх сабе курткі, бо і апрануцца было цяжка.

**«НН»: А калі Вы займацца двубоямі пачалі?**

**АР:** О, яшчэ ў школе. Гэта была школа №55 за былым Чэрвеньскім рынкам. І там у нас быў такі хлопец з Камвольнага — Валік. Мы думалі, што ён такі страшны ніндзя. А ён быў зусім звычайным, проста начытаўся кніжак ці мо нават служыў дзе. Мы ў яго трэніраваліся, ён нам паказваў усяго пару ўдараў, але мы іх рабілі ўжо ад душы.

### Чэрвеньскі, «Камунарка», Брус Лі

**«НН»: Вы заспелі час падпольнага каратэ ў СССР. Як гэта выглядала ўвогуле?**

**АР:** Выглядала гэта адначасова і смешна, і крута. Выходзілі ў залу, а там было настолькі ціха, што можна было чуць, як ляціць муха — усе слухалі трэнера, як сапраўднага гуру. Усе фанацелі ад фільмаў з Брусам Лі, а іх было яшчэ цяжка тады ўбачыць. Калі хтось здабываў ягоны здымак і вешаў сабе на сцяну, гэта было крута. І гэта ўсё, з другога боку, было добра, бо людзі цягнуліся да спорту. Не да спайсаў ці бутэлькі.

**«НН»: А што Вас на заняткі натхніла? Стандартная гісторыя — нехта старэйшы даў тумакоў, Вы вырашылі адпомсціць і пайшлі трэніравацца?**

**АР:** Ды гэта быў стыль жыцця. У нашым раёне ні дня без прыгодаў не атрымлівалася. І прайсці спакойна побач з кампаніяй, якая стаяла на тваім шляху, было немагчыма. І калі ты быў слабы і зацюканы, то што гэта за жыццё? Трэба было агрызацца, адбівацца, нешта рабіць. Усе хлопцы гэта адчулі і зрабілі пэўныя высновы ў сваім жыцці. І мне шкада, калі хтосьці зусім апусціў рукі.

**«НН»: Вось баксёр Яноўскі расказваў, як аднойчы падчас аднаго з яго баёў разваліўся рынг. Самая вясёлая каляспартыўная гісторыя з Вашай практыкі?**

**АР:** Аднойчы пабачылі ў душавой пацука, які пад столлю лазіў па трубах. Толя Ліс крычыць: «Пацук, пацук!» Я ўзяў такую доўгую мятлу з жосткімі прутамі і хацеў гэтага пацука зняць. Але выпадкова ткнуў у яго і трапіў яму прутом у вока. Ён, бедны, і памёр адразу.

Таксама вельмі цікавая гісторыя адбылася, калі я працаваў на «Камунарцы». Мае сябры па трэніроўцы ўсё прасілі мяне арганізаваць ім экскурсію па фабрыцы, каб яны паглядзелі на сам працэс вырабу гэтых цукерак і шакаладак, і, зразумела ж, імі наеліся. Я спытаў у нашага кіраўніцтва, і нам дазволілі правесці экскурсію ў абмен на паказальны выступ перад супрацоўнікамі завода. Мы выступілі перу імі на дыскатэцы ў пятніцу — усё прыгожа, як трэба, дошкі паламалі, пабіліся. А ў наступны панядзелак хлопцы пайшлі на завод. Я з імі не хадзіў, бо займаўся сваёй працай, ды і так усё ведаў. Але цікавая рэч у тым, што на наступны дзень на трэніроўку амаль ніхто не прыйшоў. Толькі тыя, хто на экскурсію не хадзіў. Праз дзень таксама. Толькі праз два дні пачалі з'яўляцца людзі. Расказвалі, што спачатку іх завялі ў карамельны цэх — наеліся. Затым ў цукерачны — там таксама наеліся. І пад канец у шакаладны — хоць ужо не лезла, але ўсё роўна елі. Па выніку пару дзён было хлопцам вельмі дрэнна. Пасля недзе месяц ніхто з іх на салодкае глядзець не мог.

**«НН»: Якім чынам цяпер сябе трымаеце ў форме?**

**АР:** Кожнаму чалавеку патрэбна ў першую чаргу прыслухоўвацца да сябе. Не старацца глядзець, напрыклад, на суседа, які вялікі і дужы, і таксама ісці ў качалку. Ці другі бегае марафоны — давай і я буду бегаць. Трэба зыходзіць са сваіх генетычных і ўсіх астатніх магчымасцяў. Таму я цяпер хаджу плаваць, баксірую і катаюся на роварах. Калі гэта ўсё чаргуецца, то вельмі добра. Бо лепей за плаванне, а таксама фізічныя практыкаванні на брусах, турніку на свежым паветры нічога няма. Няправільна, напрыклад, пастаянна цягаць жалеза і чакаць, што з году ў год здароўе будзе лепшаць. Урэшце надыходзіць момант, калі, напрыклад, зношваюцца суставы.

> **Калі ты быў слабы і зацюканы, то што гэта за жыццё?** »

### Ахова, Курапаты, «Тарпеда»

**«НН»: Раскажыце пра «ліхія» 90-я. Для спартоўцаў гэта вельмі вясёлы час.**

**АР:** Так-так. У той час усе мае знаёмыя аказаліся ў розных ахоўных фірмах ці нейкіх такіх утварэннях. Тады літаральна ўсім прапаноўвалі абарону ад усяго. І насамрэч, гэта такая перасцярога для спартоўцаў, што іх могуць выкарыстаць, і потым яны застануцца ні з чым і ім будзе вельмі дрэнна. Таму заўжды трэба некалькі разоў падумаць перад тым, як ісці нешта рабіць. Як мы бачылі нядаўна ва Украіне, калі выкарыстоўвалі цітушак у барацьбе з пратэстоўцамі. Атрымліваецца, за нейкія грошы чалавек прадаваў сваю Радзіму.

**«НН»: Яшчэ што цікавіць: як у Вашым жыцці з'явілася «Тарпеда»? Вы ж не з Аўтазавода.**

**АР:** Як кажуць нашыя сябры ірландцы: «У нашым свеце нават атэіст павінен вырашыць, хто ён — каталік ці пратэстант». Так і ў нас — ты павінен вырашыць, як увогуле жыць і што ад жыцця атрымліваць. А ў 1989-м шмат што растлумачыў Пазняк, і я ад таго часу пачаў хадзіць у Курапаты. Ужо пазней я пабачыў, што ў «Тарпеда» быў на той момант адзіны беларускамоўны футбольны сайт, і таму стаў падтрымліваць гэтую каманду. Я зрабіў свой выбар, канечне, пазнавата, але мне ніхто не скажа, што я стаў падтрымліваць тых, хто быў на першых ролях — БАТЭ ці «Дынама». У «Тарпеда» няма такіх магчымасцяў, там усё на сродкі людзей. І мне падабаецца, што хлопцы сумленныя, не карыстаюцца вялікім грашыма. Самае галоўнае, што ёсць у гэтым руху, — менавіта фанаты, а не гульцы ці яшчэ хто. Калі ў мяне выпадае нейкая магчымасць, я дапамагаю хлопцам.

**«НН»: Якім чынам прыйшлі да ідэй нацыяналізму? Як да іх можна было прыйсці ў савецкі час?**

**АР:** Ведаеце, усё перадавалася выключна ад чалавека да чалавека. Мне знаёмы расказаў, што ў Курапатах пабілі людзей. Я раззлаваўся — як гэта так? І на наступны год вырашыў пайсці з імі. Памятаю, ішлі праз Зялёны Луг, нас здымалі з міліцэйскага аўтамабіля. А потым мне ўжо бабуля з дзядулем пачалі расказваць тое, аб чым маўчалі раней: што прадзед памёр на Калыме, што ўсе былі сасланыя ў Казахстан і гэтак далей. Я вельмі здзівіўся іх маўчанню, але яны сказалі, што і на той момант баяліся гаварыць, не тое, што раней. Вось і цяпер так.

**«НН»: Якое настаўленне можаце даць цяперашнім маладым хлопцам?**

**АР:** У свеце ўсім кіруе сіла, нават не праўда. Ты можаш старацца быць больш дужым і моцным, а можаш аказацца пад уплывам іншых, хто моцнейшы. Ёсць прымаўка:у маёй хаце — мая праўда і сіла. Дык вось у нашай хаце павінна быць наша праўда і сіла. Таму ўсе павінны быць моцнымі, а для гэтага трэба займацца — плаваннем, валейболам, чым заўгодна. У любым выпадку ў людзей павінен быць моцны стрыжань.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**

# Памёр стваральнік «чырвонай машыны»

**Віктара Ціханава** не стала ў 84 гады.

На чэмпіянаце свету 1977 па хакеі зборная СССР нечакана саступіла чэмпіёнства шведам. Трэнер Барыс Кулагін быў адпраўлены ў адстаўку. Усё кіраўніцтва Савецкага Саюза пачало пошук новага трэнера.

Віктару Ціханаву ўзначаліць ЦСКА і зборную прапаноўваў асабіста кіраўнік КГБ Юрый Андропаў. Але тагачасны трэнер рыжскага «Дынама» нечакана адмовіў. Нечуванае: Андропаву даводзілася прасіць двойчы. «Я хацеў бы, каб вы ўзначалілі «Дынама», але Брэжнеў загадаў, што трэба браць ЦСКА», — так словы Андропава пазней перадаваў сам Ціханаў.

Віктар Ціханаў быў узорным партыйцам, у яго не было ні каліва дысідэнцтва. У ЦСКА ён прыйшоў пасля трэнера Локцева, які меў з хакеістамі прыяцельскія адносіны, каманда была адзінай сям'ёй. Ціханаў жа паказаў, што ён прыйшоў не дружбу вадзіць, а працаваць.

Хакеісты ўзвывалі ад патрабаванняў трэнера. Яны месяцамі не бачылі сям'ю. Але ж ЦСКА — гэта каманда армейская, а ў войску загады не абмяркоўваюць. Настаўнік меў абсалютна дыктатарскія метады кіравання, часам нават палачныя, ён ніколі не прыслухоўваўся да сваіх падначаленых.

Але ж гэта давала вынік. «Чырвоная машына» — так называлі тагачасную савецкую зборную. Пры Ціханаву СССР тройчы выйгравала Алімпіяду, а яшчэ на ягоным рахунку восем залатых медалёў чэмпіянатаў свету. Трэнер спрычыніўся да таго феномена, што хакей стаў народнай гульнёй. Менавіта Ціханаў стварыў культавую пяцёрку Фяцісаў — Касатонаў — Макараў — Ларыёнаў — Крутаў,



якую абагаўлялі ў СССР і якую баяліся ва ўсім астатнім свеце.

Амерыканскія і канадскія клубы прапаноўвалі Ціханаву мільённыя кантракты, але таварыш палкоўнік рашуча адкідаў іх прапановы. Для Ціханава балючым ударам сталі ўцёкі савецкіх хакеістаў у НХЛ. Ён доўгі час не мог прыняць гэтай з'явы. А ў 1988-м з'явіўся адкрыты ліст Ігара Ларыёнава да Ціханава, дзе хакеіст публічна крытыкаваў працу мэтра.

Ён не цярпеў ужывання алкаголю ці курэння. Сам ніколі не прыкладваўся да шклянкі. Трымаў сябе да глыбокай старасці ў выдатнай форме. Яшчэ ў 65 гадоў бегаў кросы разам з усёй камандай.

У постсавецкай Расіі Ціханаў не дабіўся вялікіх поспехаў. Заканадаўцамі моды сталі зусім іншыя людзі. Ціханаў заставаўся ўсімі паважаным чалавекам, якога з любоўю называлі «дзядулем».

Летась на здароўі Віктара Ціханава моцна адбіўся няшчасны выпадак з ягоным сынам Васілём. 55-гадовы мужчына зваліўся з чацвёртага паверха дома, калі спрабаваў разрэзаць мантажную сетку, якой быў абцягнуты дом падчас рамонту. Васіль Ціханаў таксама быў хакеістам і трэнерам.

Цяпер дынастыю Ціханавых працягвае Віктар Ціханаў-малодшы. Ён гуляе за маскоўскі ЦСКА, які некалі трэніраваў дзед. У дзень смерці славутага трэнера ЦСКА перамог піцерскі СКА — 5:3.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**




29-гадовы брытанец Льюіс Хэмілтан стаў 2-разовым чэмпіёнам свету ў аўтагонках серыі «Формула-1». Цемнаскуры гоншчык апярэдзіў у агульным заліку партнёра па «Мерсэдэсе» немца Ніка Росберга. Такім чынам, была парушаная 4-гадовая чэмпіёнская серыя Себасцьяна Фетэля.

«Формула-1» — элітныя гонкі, папулярныя ва ўсім свеце. Яшчэ ніводзін беларус не браў удзел у «Ф-1».

**Цытата**

### «Мне не падабаецца наша савецкасць, наша залежнасць»



«Мне шмат усяго не падабаецца ў сённяшняй Беларусі. Але асноўнае — гэта наша савецкасць. Мы не пайшлі ў еўрапейскі бок. Працягнулі жыць пасля развалу СССР так, быццам гэтая вялікая краіна яшчэ існуе. Усё ж такі нам, напэўна, трэба было ператрываць, зрабіць акцэнт на сабе і выпрацаваць незалежнасць. А цяпер Беларусь залежная. Вось гэта мне не падабаецца. Разумею, у сучасным свеце цяжка быць незалежным. Але хапае маленькіх краін, якія прымудраюцца спраўляцца з гэтай задачай. Думаю, калі б адразу пасля развалу СССР мы кардынальна змянілі курс развіцця, у нас магло б атрымацца. А так «савок». У нас усё дзяржаўнае, нічыё, па сутнасці. А да не свайго людзі ставяцца адпаведна. Не беражліва. Цапу-лапу. Гэта як калгасы ў СССР. Не мае — дык і запароць можна... Гэта людзей псуе». (Шматразовая медалістка чэмпіянатаў свету і Еўропы па штурханні ядра Надзея Астапчук у інтэрв'ю сайту by.tribuna.com).

**У Афрыцы**

## Матч афрыканскіх зборных скончыўся магутнай бойкай заўзятараў з паліцыяй

19 лістапада зборныя Кот-д'Івуара і Камеруна сустракаліся ў рамках кваліфікацыі да Кубка афрыканскіх нацый, які адбудзецца ў студзені 2015 года. Сустрэча, якая праходзіла ў Абіджане, скончылася безгалявой нічыёй, што забяспечыла камандзе Кот-д'Івуара пуцёўку на галоўны афрыканскі турнір. Зборная Камеруна яшчэ да гэтага матча гарантавала сабе ўдзел у фінальным турніры Кубка, заняўшы першае месца ў сваёй групе.



Але адносны спакой на полі змяніўся буйствам пасля заканчэння гульні. Як толькі прагучаў фінальны свісток, заўзятары гаспадароў выбеглі на поле, каб адсвяткаваць перамогу разам з футбалістамі. Некаторыя з іх пачалі спрабаваць разламаць футбольныя вароты, каб разабраць іх на сувеніры, але не паспелі. Мясцовай паліцыі не спадабаліся такія памкненні, таму супрацоўнікі праваахоўы тут жа кінуліся супакойваць гледачоў і разганяць іх пры дапамозе дубінак. Не дапамагло нават тое, што гульцы зборнай Кот-д'Івуара спрабавалі не дапусціць гвалту і адцягвалі заўзятараў ад паліцыянтаў.

**Зміцер Міцкевіч**

# Васілій Уткін і Віктар Ганчарэнка памірыліся

Скандальны расійскі каментатар, галоўны рэдактар спартыўных тэлеканалаў «НТВ+» Васілій Уткін сфоткаўся з былым трэнерам БАТЭ і краснадарскай «Кубані» Віктарам Ганчарэнкам. Калега Уткіна Канстанцін Геніч аздобіў фатаграфію подпісам «Мір. Дружба. Жвачка».

Раней Уткін неаднаразова саркастычна праходзіўся па асобе Ганчарэнкі. Першы раз гэта было пасля разгромнай паразы БАТЭ ў Лізе чэмпіёнаў ад «Барселоны».

«Трэнер БАТЭ Віктар Ганчарэнка пры жыцці павінен гарэць у пекле. Ён вырашыў, што ў матчы з «Барселонай» няма чаго лавіць і выставіў моладзь. Гэта Ліга чэмпіёнаў, бульбяная твая душа. Ты, БАТЭ, у Лігу чэмпіёнаў трапіў і пачынаеш у ёй кагосьці абкатваць?! Хто табе дазволіў?! Хто ты ўвогуле такі?!» — так адгукнуўся Уткін.

Пасля каментатар зразумеў, што ягоныя допісы ў дачыненні да БАТЭ трапляюць на ўрадлівую глебу, бо беларусы вядуцца, і яшчэ часцей



стаў «троліць» нашага чэмпіёна і ўвогуле прадстаўнікоў краіны.

Праўда, калі пачалася шурабура вакол адстаўкі Ганчарэнкі з «Кубані», Уткін аднаназначна стаў на бок трэнера, а не кіраўніцтва каманды.

«Ганчарэнка — добры трэнер, і я рады, што ён нарэшце пакінуў ўтульны маленькі свет і адправіўся ў вялікае рызыкоўнае плаванне. Прыняў выклік. І за ім цікава назіраць. Я б сказаў, што, на мой погляд, яму не стае харызмы. Але гэта вельмі суб'ектыўнае пытанне. Цяпер наогул пра Ганчарэнку зашмат кажуць: ён проста добра працаваў. Нядрэнна працаваў. Пра яго кажуць, таму што з ім зрабілі несправядліва», — напісаў Уткін пасля знаёмства з Віктарам Ганчарэнкам.

Пакуль беларускі трэнер застаецца беспрацоўным. Віды на яго маюць некалькі расійскіх клубаў розных узроўняў.

**ЗП**

**У Наваполацку**

## Белультрас: амапавец зламаў руку аднаму з фанатаў мінскага «Дынама»

Як стала вядома Belultras.by, адзін з фанатаў мінскага «Дынама» атрымаў дастаткова цяжкую траўму з-за жорсткіх дзеянняў супрацоўнікаў АМАПу на матчы чэмпіянату Беларусі паміж наваполацкім «Нафтанам» і «Дынама». Афіцыйны дыягназ, які быў пастаўлены дактарамі адной з мінскіх паліклінік, гучыць так: «Закрыты пералом шыйкі 2-й пястнай косткі».

Бойка фанатаў з АМАПам адбылася 22 лістапада ў Наваполацку.

Як паведамляе by.tribuna.com, мінчукі запалілі фаеры, праваахоўнікі сталі сцягваць фанатаў з трыбун. У адказ у амапаўцаў паляцелі вырваныя крэслы.

# Гадаванцы палігона

**Малады камуніст Андрэй Лазуткін выдаў аповесць пра Беларусь, у якой перамаглі фашысты.**

Дэбютная кніга Андрэя Лазуткіна называецца «Полигон» і выйшла сёлета ў серыі «Пункт адліку» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. «Аўтар, — піша ў прадмове рэдактарка кнігі Людміла Рублеўская, — новае яскравае імя беларускай літаратуры», а твор уяўляе сабой «дынамічную і вострую, шчырую і таленавітую прозу».

Калі сцісла казаць пра сюжэт, твор мае дзве лініі: адна — фантастычная, у стылі антыўтопіі, падзеі ў якой разгортваюцца на землях акупаванай Беларусі пасля перамогі Гітлера ў 1943 годзе, другая ж апісвае жыццё, уражанні і роздумы маладога аўтара ў наш час.

Не маючы на мэце ацэньваць мастацкія вартасці «остмадэрніцкай аповесці» (па азначэнні самага аўтара), хацелася б звярнуць увагу на ідэалагічныя пасылы твора.




Хоць твор напісаны парасейску, беларуская мова ў ім гучыць. Прычым (за выняткам пары эпізодаў) гучыць з вуснаў персанажаў, надзеленых адмоўнымі рысамі. Гэта і калабарант-эсдэшнік, і жаўнер «Самааховы», і выжылая з розуму бабулька, якая здае пакойчык галоўнаму герою-студэнту.

Сам жа галоўны герой — «русский», і гэтую сваю шавіністычную «русскость» ён падкрэслівае цягам усёй аповесці.

З дапамогай такога літаратурнага прыёма, як мова персанажа, Лазуткін спекуляцыйна стварае негатыўны вобраз беларускамоўных, навязвае ўражанне пра беларускіх патрыётаў у час нямецкай акупацыі выключна як пра здраднікаў і падонкаў. Чаго вартая згадка пра кананізацыю гаўляйтара Кубэ: «Наша греко-католическая церковь причислила убиенного гауляйтера к лику мучеников — иконку со святым Вильгельмом Минским можно купить в любой церковной лавке».

А вось гэта, прабачце, папрошу гамон!

«Неуклюже встаю, цепляюсь за стол. Ноги, блин, не держат.

— И еще — вот ваши документы, — следователь кладет на стол мой измятый, размокший от воды паспорт-аусвайс. Тот, который я отдал офицеру в деревне. Ну что ж, спасибо родной полиции — сую бумагу в карман.

Колючие глазки следователя чуть теплеют:

— Хайль Гитлер!

— Живе! — сгибаю руку в вялом приветствии.

Фюрер все так же отсутствующе смотрит со стенки. Странно, почему он здесь висит? Обычно в учреждениях вешают щекастый портрет президента Островского, в очках и цивильном пиджаке. Ну да хер с вами всеми. За спиной скрипит дверь. Спускаюсь с крыльца, меня чуть шатает».

У другой частцы твора, прысвечанай сучаснасці, таксама нямала прапагандысцкіх момантаў. Напрыклад, змрочнае апісанне краін-суседак, якія зрабілі еўрапейскі выбар. Напрыклад, у Вільні «вокзал напоминает Гомель, да и вообще — белорусскую провинцию: то ли Борисов, то ли Барановичи. ...Узкие кривые улочки, тающий снег, облезлые фасады. ...Вдоль дороги — бараки, натурального послевоенного вида, проваленные крыши, выбитые окна. Щурю глаза: на лицевой стороне дома подвешены за шею игрушки-телепузики, типа декор. Яркие пятна на фоне черных досок. Боже, какая невероятная дичь. Говорят, в нацистской Германии делали елочные игрушки в виде врагов Рейха и вешали на елку — тоже за шею. Разбирает смех».

Перагукаецца з тым, што нам гадамі ўціраюць пра «загніваючую» Еўропу з экранаў БТ і са старонак «чэсных» газет?

А вось герой у Варшаве: «Автовокзал «Варшава Западная». ...На железную скамейку рядом со мной подсаживается прилично одетый польский бомж. Улыбается, держит сигарету на отлете, просит злотый. Какие наглые здесь бомжи.

— Ярузельский? Звёнзек Радецкий? Чего ты хочешь, дорогой польский товарищ? Мувиш поросыйску? — растягиваю русские слова, улыбаюсь, смотрю в упор.

Поляк злится, глаза наливаются кровью. Что-то говорит мне, разбираю только «Ярузельский», «руски» и «курва».

Да, дорогой польский товарищ, может, я и курва. А ты, поляк, просишь у меня, русского, деньги на варшавском вокзале. Какая ирония, правда? И, наверно, очень противно».

На фоне падзеяў апошняга года эпізод пра паездку галоўнага героя ў Львоў выглядае сімвалічна: «Огромные мраморные кресты, стилизованные под немецкие ордена, высотой под три метра. Мы на львовском кладбище, называется оно «Лычакивське». ...Под бетонными плитами лежит добровольческая дивизия СС «Галиция». После победы президента Ющенко построили мемориал, на открытие даже приехал Буш. Аккуратные ровные могилки. Слева — годы смерти около сорок пятого, справа — 2002, 2003 и прочие. Многие, очень многие пережили войну. Полицаи, предатели, изменники из наших учебников и одновременно — герои независимой Украины...»

Не абышлося і без згадак пра беларускую палітычную апазіцыю, якая паказваецца ў найлепшых традыцыях «Панарамы»: «25 марта, День Воли, очередная годовщина Белорусской народной республики. Едем на Академию наук, там проходит разрешенный властями митинг. Народу немного, около тысячи. Бело-красно-белые флаги, натянутые на удочки, анархисты в противогазах, Римашевский, Лебедько, Ивашкевич, кто-то еще. ...Действо довольно уныло. Аппаратуры нет, ораторам приходится довольствоваться матюгальниками. Идет бурная дискуссия — куда идти: на Бангалор или нет. Руки в карманы — стоим среди толпы. За рукав тянет девушка:

— Хлапцы, вы не жадаеце далучыцца да «Маладзі Беларусі»?

— Девушка, а как с режимом будем бороться? Что делать надо?

— Ну, прыходзьце, абмяркуем! — девушка расцветает.

— Чего тут обсуждать. Давайте вон машину перевернем, подожжем что-нибудь. Слабо?

— Ой, не, гэта не да нас...

— А девушки у вас там есть симпатичные?

— Гледзячы на які густ, — смеется.

Вкус у меня нормальный. Но бабы в любых политических тусовках, как правило, страшные — это аксиома».

Што абумовіла такую ідэалагічную скіраванасць твора? Аказваецца, аўтар аповесці Андрэй (Андрюша) Лазуткін з'яўляецца адказным сакратаром газеты Камуністычнай партыі Беларусі, а таксама даследчыкам спадчыны «вялікага правадыра пралетарыята» У.І.Леніна.

Для прасоўвання неабальшавіцкіх ідэалагем выбраны ўдалы фармат: пры патрэбе можна лёгка aспрэчыць прэтэнзіі, спасылаўшыся на «спецыфіку тонкага свету мастацкай літаратуры» і «права мастака на самавыяўленне».

**Вінцэнт Кажановіч**

### Шкадую, што не я напісаў

Аповесць Андрэя Лазуткіна — адна з тых, пра якія пасля ее прачытання шкадуеш, што не ты яе напісаў. Зрэшты, няхай сабе камуністы пішуць добрыя кнігі, чым нацыяналісты — дрэнныя. Ідэалагічныя пазіцыі аўтара могуць быць любымі, ён мае на гэта права.

**Альгерд Бахарэвіч, пісьменнік**

### Немцы і вяскоўцы гавораць на «фені»

Блатны жаргон перанасычае дыялогі герояў і словы аўтара без аніякай эстэтычнай матываванасці: на фені гавораць паліцаі і партызаны, немцы і тубыльцы, студэнты і вяскоўцы, сам аўтар і яго сябры-студэнты. Прычым гэта не гутарковыя звароты, а менавіта зонаўскі слэнг — «мусарнуться», «харя», «мурло», «порожняк», «взять за жабры».... Некаторыя нейтральна афарбаваныя дзеясловы **ніводнага разу** (!) не выкарыстоўваюцца. У «Палігоне» нельга сустрэць форму «есть» — толькі «жрать», не «идти» — толькі «мотаться», «валить» і г.д.

...Аўтар альтэрнатыўнай гісторыі **ніводным (!) словам не гаворыць пра БССР да вайны.** Ні слова пра тое, чым былі 20-я і 30-я для Беларусі ў складзе СССР. Чаму? Відаць, таму, што нават альтэрнатыўная гісторыя ў таварыша Лазуткіна падцэнзурная ўнутранаму бальшавіцкаму рэдактару.

**УС, budzma.by**

### Герой Лазуткіна — прадукт часу Лукашэнкі

Галоўны герой Лазуткіна — страшна несімпатычны, цынічны, грубы прадукт часу Лукашэнкі. Ён амаль не здольны на звычайныя добрыя чалавечыя пачуцці і сапраўды фатальна пазбаўлены нацыянальнай ідэнтычнасці. Але гэта не сам аўтар. Заслуга аўтара ў тым, што ён змог выразна паказаць гэты тып маладых людзей. Заслуга СБП у тым, што ён паспрыяў друку гэтай кнігі і тым самым звярнуў увагу грамадства на сапраўды вялікую праблему. Такіх, як герой аповесці, на жаль, у Беларусі зараз вельмі шмат, і пра гэта трэба гаварыць.

**Наталка Бабіна, пісьменніца**

### Моўная сегрэгацыя — лухта

Найбольшае расчараванне — правальнасць авансаванай «альтэрнатыўнай гісторыі». Ніводзін з магчымых вектараў развіцця сітуацыі пасля вайны не прывёў бы да таго, што апісваецца ў кнізе. Усё нематываванае і высмактанае з пальца.

Непрыемны асадачак пакідае і выразны савецкі ідэалагічны фон абедзвюх нарацыйных ліній. Ну але ж гэта літаратура, каму не падабаецца — хай чытаюць палітычна блізкую сабе публіцыстыку. З літаратурным бокам аўтар справіўся, а з галоўным героем чытач сябе асацыяваць і не павінен. Свет вачамі гаўнюка — таксама літаратура. Вось жа падабаецца некаторым «Любіць ноч...», нягледзячы на пазіцыю і ідэалогію аўтара.

Што да «моўнай сегрэгацыі», дык гэта якраз поўная лухта. У кнізе беларуская мова з'яўляецца спарадычна дзеля каларыту, і гаворыць на ёй хто ні попадзя — і паліцыянт, і дзед, і гаспадыня хаты, і паплечнік-падпольшчык, і — о, жах! — сам аўтар. А па-расейску — усе астатнія: і добрыя, і дрэнныя, і партызаны, і паліцаі, і нацысты, і камуністы, без разбору.

**Сяргей Шупа, перакладчык**

### Кожны мае права на сваю ідэйнасць

Можна не падзяляць светапогляд аўтара ці нават быць вельмі супраць ягоных перакананняў, але гэта не павінна перашкодзіць ацаніць мастацкую якасць твора. Праўкі, канечне, былі зробленыя, але змяніць Андрэеў пазнавальны стыль, умення расказваць гісторыі немагчыма. Падкупляе смеласць аўтара, бо ён не баіцца падабацца або не падабацца. Голас пакалення, жаданне «памацюкацца і паржаць», як кажа сам аўтар, — гэта часовае, гэта пройдзе.

**Людміла Рублеўская, пісьменніца**

## Сцісла

### Гомельскі рэпер Сярога прэзентаваў сінгл «50 оттенков Серого»

Рэпер, ураджэнец Гомеля, Сярога (*Seryoga*) прэзентаваў у інтэрнэце песню «50 оттенков Серого». На 9 снежня прызначаны рэліз аднайменнага альбома-споведзі. Сяргей Пархоменка нарадзіўся ў 1976 у Гомелі, стаў знакамітым на прасторах СНД у 2004 пасля хіта «Чорны бумер». Ад 2007 жыве ў Кіеве і Маскве, ад 2010 быў суддзёй украінскага шоу «X-factor».

### «Бярозка» аднаўляе выхад

Ад студзеня 2015 аднаўляецца самастойнае выданне часопіса для дзяцей і падлеткаў «Бярозка», які ад 2012 выдаваўся пад адной вокладкай з «Маладосцю». На «Бярозку» ўжо можна падпісацца. «Бярозка» была заснавана ў 1924, але надзвычай папулярнай стала ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х, калі ў часопісе друкаваліся цікавыя ўзоры мастацкай літаратуры, гістарычныя артыкулы, пераклады, агляды беларускага року. Для дзяцей беларуску таксама выдаюцца «Вясёлка» (для малодшых школьнікаў) і «Буся» (для дашкольнікаў).

### Новы сезон прэміі «Дэбют» адкрыты

Беларускі ПЭН-цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Мясцовы дабрачынны фонд «Вяртанне» абвяшчаюць новы сезон прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Прэмія прысуджаецца штогод за найлепшую дэбютную кнігу, напісаную на беларускай мове ці перакладзеную на яе. Аўтару ці перакладчыку мае быць менш за 35 гадоў на момант выдання. Для ўдзелу ў конкурсе трэба да 31 студзеня 2015 года даслаць заяўку на электронную скрыню info@pen-centre.by альбо на паштовы адрас: 220050, Мінск, п/с 218. Да заяўкі неабходна далучыць 2 асобнікі кнігі і яе электронную версію.

### «1984» Оруэла экранізуюць наноў

За новы фільм паводле рамана-антыўтопіі Джорджа Оруэла «1984» возьмецца брытанскі рэжысёр Пол Грынграс. Вытворчасць фільма запусціць кампанія Sony. Раман пра таталітарызм увёў у зварот такія азначэнні як «Старэйшы Брат» (таталітарны кіраўнік і яго сістэма, якая кантралюе ўсе аспекты жыцця грамадзяніна), «думалчынства» (злачынства, якое складаецца з адной толькі «антыдзяржаўнай» думкі ці сумневу). Жартуюць, што некаторыя сучасныя кіраўнікі дзяржаў успрымаюць «1984» не як мастацкі твор, а як інструкцыю.

## ФУТБОЛ

### «Дынама» — ПАОК




**28 лістапада на «Барысаў-Арэне»** адбудзецца матч групавога этапа Лігі Еўропы. Мінскае «Дынама» прымае грэцкі ПАОК. Пачатак а 20.

### Апошні тур

**У апошнім туры чэмпіянату Беларусі 29 лістапада** гуляюць «Дняпро» (Магілёў) — «Слуцк», «Мінск» — «Дынама» (Брэст) і «Нёман» (Гродна) — «Белшына» (Бабруйск). 30 лістапада гуляюць «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Нафтан» (Навапалацк), «Дынама» (Мінск) — «Гомель», БАТЭ (Барысаў) — «Шахцёр» (Салігорск).

## ГАНДБОЛ

### Ліга чэмпіёнаў у Брэсце

**29 лістапада ў брэсцкім спарткомплексе «Вікторыя»** адбудзецца гульня паміж мясцовым гандбольным клубам імя Мяшкова і іспанскай «Лагроньё». Пачатак а 16.

## КАНЦЭРТЫ

### «Нельга забыць»

**29 лістапада ў Віцебску, у выставачнай зале «Задзвінне» (Чайкоўскага, 3)**, адбудзецца канцэрт гурту «Нельга забыць» з праграмай «Леаніды не вернуцца да зямлі». Выступ прымеркаваны да дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Пачатак а 17.

### «Мастацкі націск»

**29 лістапада а 17 у Музеі імя Янкі Купалы (Янкі Купалы, 4)** пройдзе канцэрт камернай музыкі маладых беларускіх кампазітараў «Мастацкі націск».

### Naka

**29 лістапада ў клубе Re:Public (пр-т Прытыцкага, 62)** сваё 10-годдзе гучна адзначыць гурт Naka. Пачатак а 19.

### Sciana

**5 снежня а 19 у клубе «Піраты» (пр-т Партызанскі, 6А)** спраўляе сваё 15-годдзе брэсцкі гурт Sciana.

### «Дай дарогу!»

**5 снежня ў клубе Re:Public (пр-т Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту «Дай дарогу!». Пачатак а 19.




## ТЭАТР

### 27 лістапада

**Балет** — Вітаўт
**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі, Музычны слон
**Купалаўскі** — Паўлінка

### 28 лістапада

**Купалаўскі** — Раскіданае гняздо
**Опера** — Мадам Батэрфляй

### 29 лістапада

**Балет** — Сем прыгажунь
**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху

### 30 лістапада

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі, Воўк-мараплавец
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Опера** — Турандот

### 2 снежня

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Самотны захад, Вечар
**Опера** — Чароўная флейта
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 3 снежня

**Балет** — Рамэа і Джульета
**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Пінская шляхта, Самотны захад
**Юнага гледача** — Аднакласнікі







### «TyzenHouse»

**Свята класічнай музыкі «TyzenHouse» пройдзе ў Гродне 27—29 лістапада.** Сваё майстэрства гродзенцам прадэманструюць як прызнаныя майстры, гэтаксама маладыя таленавітыя выканаўцы, якія паспелі заваяваць сімпатыю меламанаў. 27 лістапада ў Гродне адбудзецца канцэрт іспанскага скрыпача Сафіі Хесуса Рэйна, а таксама знакамітай кітайскай віяланчэлісткі з Германіі Джынг Джыя і маладога беларускага піяніста, пераможцы шматлікіх міжнародных конкурсаў, ураджэнца Гродна Кірылы Кедука. Прагучаць трыа Мендэльсона, Рахманінава, Дворжака, танга П'яцолы. Народны артыст Расіі Уладзімір Аўчыннікаў 28 лістапада дасць у Гродне сольны канцэрт.

## ВЫСТАВЫ

### Музей ёлачных цацак

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** стварылі музей ёлачных цацак. На выставе паказаныя рарытэтныя экспанаты: аўстра-венгерская шкляная ёлачная цацка з Венскага калядняга балю дыяметрам больш за 450 мм і дакладная копія цацкі, падоранай Папу Яну Паўлу II украінскімі шкловыдзімальнікамі і занесенай ў Кнігу рэкордаў Гінеса. На цацках можна пабачыць нават копіі карцін Марка Шагала, Сальвадора Далі, Пабла Пікаса, Леанарда да Вінчы, намаляваныя на шкляных шарах. Таксама можна паглядзець калекцыю дзядоў-маразоў і інтэрактыўныя мініяцюрныя калядныя гарадок.

### Сума Сумарум

**Да 13 снежня 2014 года ў Мінску** пройдзе выстава і міжнародны форум беларускіх мастакоў «Сума Сумарум». Гэта першы праект легендарнай галерэі «Шостая лінія» пасля паўзы ў 16 гадоў. «Шостая лінія» — адна з першых і найбольш папулярных у Беларусі некамерцыйных галерэй сучаснага мастацтва, якая праіснавала ў Мінску з 1992 па 1998 год. За шэсць гадоў больш чым 60 мастакоў з Беларусі, Германіі, Польшчы і ЗША правялі ў галерэі 50 выставаў, мастацкіх акцый і перформансаў, якія нязменна прыцягвалі вялікую цікавасць гледачоў і СМІ.

## КІНО

### Снегаачышчальнік помсціць

Дурная справа няхітрая
**Жанр:** трылер, крымінал, камедыя
**Рэжысёр:** Ганс Петэр Моланд
**У ролях:** Стэлан Скарсгард, Тобіас Зантэльман, Брыгіта Ёрт Сёрэнсан, Крыстафер Хівью, Бруна Ганц, Якаб Афтэбра
Нарвегія, Данія, Швецыя, 112 хв.

Руплівы Нільс усё жыццё працуе на магутным снегаачышчальніку, які чысціць дарогі негасціннай заснежанай мясцовасці, дзе ён жыве. Ён быў прызнаны Грамадзянінам года за свае поспехі, а цяпер атрымлівае вестку пра тое, што яго сын загінуў у выніку передазіроўкі гераіну. Адмаўляючыся верыць у праўдзівасць афіцыйнай версіі смерці свайго сына, Нільс пачынае таемнае расследаванне з мэтай знайсці меркаваных забойцаў хлопца. Нечакана яму даводзіцца стаць таямнічым героем, які сее страх у злачынным свеце наркакартэляў.

Скандынаўскі трылер імкліва набліжаецца да чорнай камеды. Фільм паказвае крывавую, бязглуздую барацьбу наркакартэляў, у ім вялікая колькасць забойстваў прадстаўленая як недарэчнасць настолькі жахлівая, што выводзіць за межы страху перад смерцю і выклікае смех. Нечаканa шчымлівая паказаныя адносіны паміж бацькам, які апантаны помстай за свайго сына, і малым сынам кіраўніка наркакартэля, у гэтай смерці віннага.

Рэкамендуецца для прагляду людзям з моцнымі нервамі.

**Настасся Уласава**



# Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і падробка пячатак

Гісторык **Дзмітрый Дрозд** знайшоў дакументы з невядомымі фактамі з жыцця класіка.

У гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя ёсць асобы, пра якіх навукоўцы напісалі ў разы больш, чым яны самі напісалі за ўсё жыццё. Да ліку такіх аўтараў адносіцца Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. На жаль, менавіта аб'ём усяго напісанага пра яго часта не дазваляе вызначыць, з'яўляецца чарговая знаходка адкрыццём ці ўсяго толькі паўторам вядомага. Таму, не прэтэндуючы на гучнае слова «сенсацыя», раскажам некалькі фактаў з жыцця беларускага класіка, якія трапіліся нам пры напісанні гісторыі Мінскага турэмнага замка.

### Копіі каралеўскіх пячатак

Пра тое, што Марцінкевіч з дачкой Каміляй былі вязнямі мінскай турмы, пішуць ва ўсіх артыкулах пра Валадарку, згадваючы іх у спісе арыштантаў-знакамітасцяў. Але тычыцца гэта падзей 1864-га, разгрому царскімі ўладамі паўстання Каліноўскага. Вядома таксама, што Вінцэнт быў замяшаны ў гісторыю з падробкай дакументаў, неабходных беларускай шляхце, каб даказаць у Расійскай Імперыі сваё высакароднае паходжанне. Але і тут у асноўным пішуць пра падзеі 1840-х. Раней лічылася, што справа Чапкоўскага 1835 года — найгучнейшая з справаў, звязаных у падробкамі, — Марцінкевіча практычна не закранула. Але дакументы Нацыянальнага гістарычнага архіва адкрываюць новыя факты.

Ужо пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у былой «польскай» шляхты пачалася праблемы — кожны павінен быў даказаць сваё высакароднае паходжанне. Шляхцічы, у якіх своечасова не аказалася патрэбнай паперкі, траплялі нават у прыгонныя. Болей шанцавала тым, каго запісалі вольнымі хлебаробамі, дзяржаўнымі сялянамі або мяшчанамі.

Даказваць шляхецтва рабілася ўсё цяжэй — асабліва пасля паўстання 1830—1831. Вырас і попыт на патрэбныя для гэтага паперы: каралеўскія прывілеі на розныя пасады або маёнткі, дакументы на куплю або продаж зямлі і метрычныя выпіскі.

На гэтай глебе і расквітнеў менскі «падпольны сіндыкат», які мог за пэўную суму «знайсці» любую патрэбную паперу. Марцін Чапкоўскі якраз працаваў ва ўстанове, якая пацвярджала важкасць доказаў — Мінскім дваранскім дэпутацкім сходзе. Былі ў яго свае людзі ў судах і ў Мінскім магістраце (у апошнім пасля цэлая камісія выяўляла ў актавых кнігах розных гадоў дзясяткі «сумніўных» дакументаў ). І, вядома, вельмі патрэбным чалавекам быў сам Вінцэнт Марцінкевіч — перакладчык у Мінскай рымскакаталіцкай духоўнай Кансісторыі, які меў доступ да метрычным кніг. Магчымасці сіндыката былі велізарнымі, яго называлі «мінскі ценявы Сенат». Але колькі вяроўчацы не віцца...

Ужо 21 чэрвеня 1835, каб не быць схопленым, з свайго дома ў пажарным парадку сышоў адзін з галоўных фігурантаў справы аб «сіндікаце падробак» служачы Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу Марцін Чапкоўскі. Да верасня яму ўдавалася хавацца ад паліцыі, пераязджаючы з павета ў павет, і нават у самой Вільні. Урэшце ён быў затрыманы ў Дзісенскім павеце і 9 верасня дастаўлены ў Менскую турму. Язэп Янушкевіч цытуе яго паказанні: «Пазнаёміўшыся са служачым Мінскай рымскакаталіцкай духоўнай кансісторыі перакладчыкам Марцінкевічам, спярша склалі кампазіцыю на здыманне мадэляў пячатак каралёў польскіх Станіслава Аўгуста і Аўгуста III... Усе тыя пячаткі засталіся ў Марцінкевіча».

Пасля гэтага Вінцэнт, якому тады было каля 27 гадоў, не мог доўга заставацца на волі. І факт, што ў 1835 ён знаходзіўся пад хатнім арыштам, вядомы. Так сцвярджаў сам Марцінкевіч пасля свайго вяртання на працу. Калі яму тады ўдалося пераканаць у гэтым сучаснікаў, дык што ўжо казаць пра даследчыкаў, якія вывучаюць яго жыццё амаль праз 180 гадоў? Таму ў аўтарытэтным зборніку дакументаў, выдадзеным у 2010, чытаем: «Гаворка пра хатні арышт. Прычыны яго невядомы. Кіпучая, неардынарная натура пісьменніка часта выклікала падазрэнне ўладаў».

### Уцёкі Чапкоўскага

Новыя падрабязнасці пра падзеі 1835 раскрыла справа аб ... уцёках з Менскай турмы Чапкоўскага. Так, 8 лістапада ён, прабыўшы на Валадарцы ўсяго два месяцы, увайшоў у вельмі малы спіс тых, каму ўдалося ўцячы з замка. Прычым падрабязнасці яго ўцёкаў былі загадкай нават для ахоўнікаў. Паводле афіцыйнай версіі, Чапкоўскі з дома наглядчыка, дзе ён пісаў прашэнне, падняўся на гарышча, вылез праз слыхавое акно на дах, прывязаў да коміна самаробную вяроўку і спусціўся ўжо на волі. Паводле іншай версіі, ён, скарыстаўшыся цемрай і завірухай, выйшаў проста праз турэмныя вароты, пераапрануўшыся ў шынель і шапку наглядчыка.

12 лістапада ў замку быў праведзены поўны ператрус, шукалі нават у пакоі самога наглядчыка Станкевіча. Яго, дарэчы, які заняў гэтую пасаду ўсяго 21 кастрычніка, падазравалі ў спрыянні ўцёкам (паводле некаторых звестак, Чапкоўскі дапамагаў Станкевічу «даказваць» яго дваранскае паходжанне), за што ён адседзеў у замку пад арыштам да мая.

У справаздачы пра той татальны ператрус мы і натрапілі на прозвішча Марцінкевіча: «Нідзе ні ў кага асабліва важнага і падазронага не аказалася знойдзена. У нядаўна пасля ўцёкаў Чапкоўскага пасаджанага арыштанта, перакладчыка мінскай рымскакаталіцкай духоўнай кансісторыі Марцінкевіча, наяўных грошай золатам паўімперыялаў 40, чырвонцаў 41, срэбрам 2 руб. 62 1/2 кап. і меддзю 3 кап.».

### Вялізная сума ў кішэні

Такім чынам, час, калі Вінцэнт трапіў у першы раз у Менскую турму, мы можам назваць даволі дакладна: пасля 8 і 12 лістапада. Таксама мы можам сцвярджаць, што 15 лістапада ён знаходзіўся там жа. У гэты дзень яго жонка Юзэфа падала прашэнне: «Муж мой, бывшы несправядліва абгавораны перад правасудным начальствам, узяты ў Мінскі турэмны замак і ўтрымліваецца зняволеным пад вартай. Я ведаю, што ён бязвінна пакутуе, а роўна ўпэўненая ў слабасці яго здароўя (што могуць засведчыць лекары). Лічу сваім абавязкам прасіць пакорліва перавесці яго на кватэру з вартай або ў тутэйшы гаўптвахт, што можа яму даць значную палёгку. А роўна маю гонар дадаць, што грошы, мужу майму выпадкова ў кішэню ўкладзеныя, 21 паўімперыял расійскай манетаю, і чырвоных галандскіх золатам, колькасці якіх у тагачасным замяшанні маім успомніць не магу, ёсць мае ўласныя, падораныя ад бацькоў маіх у пасагу, у якіх цяпер, маючы патрэбу на дзённы пражытак мой і майго сямейства, каб былі ад яго ўзятыя і мне пад распіску аддадзеныя. Сапраўднае падпісала Марцінкевічава».

Аднак гэта прашэнне (у якім, дарэчы, няправільна названы лік паўімперыялаў) не дало ніякага выніку. Адкрываецца і яшчэ адзін цікавы факт біяграфіі Марцінкевіча: паводле пашыранай версіі, Вінцэнт выкраў Юзэфу і абвянчаўся з ёй таемна, калі ёй яшчэ не было 16 гадоў — але ў прашэнні яна сама піша пра бацькоўскі пасаг. Прашэнне Юзэфы не задаволілі, бо, на думку чыноўнікаў з камісіі па расследаванні ўцёкаў Чапкоўскага, яно было пададзена не па форме — на простай, а не гербавай паперы. І, акрамя таго, дастаўлена не асабіста жонкай арыштанта, а невядомым чалавекам, без тлумачэння, хто гэта прашэнне складаў і перапісваў. Таму ліст было загадана вярнуць просьбітцы. З адпіскі нам вядомая і прычына, па якой Юзэфа не змагла асабіста даставіць прашэнне: «ляжыць хворая». І за гэтымі двума словамі ўся глыбіня трагедыі сям'і Марцінкевіча: два тыдні таму, 31 кастрычніка, у сям'і Вінцэнта і Юзэфы нарадзілася дачка Эмілія.

Зрэшты, грошы не прапалі. У той жа дзень 40 паўімперыялаў і 40 чырвонцаў у бісерным кашальку былі здадзены на захаванне ў павятовае казначэйства. А гэта, між іншым, каля 1000 руб. срэбрам. Для параўнання, свой фальварак Люцынка (каля 200 дзесяцін зямлі і некалькі сем'яў прыгонных) Марцінкевічы купілі за 2700 руб. А дробязь была выдадзена «да ўжывання па харчаванні Марцінкевіча». А 29 лістапада грошы ўжо былі знятыя з захоўвання.

### «Нявінна абгавораны»

Так, першае знаходжанне Марцінкевіча ў турме было зусім нядоўгім — усяго каля тыдня. Хутчэй за ўсё, просьбы жонкі і сувязі Вінцэнта, а таксама яго цесця далі плён, і праз пару дзён ён быў пераведзены пад хатні арышт. Але да нас дайшлі два адказы Марцінкевіча на пытанні следчых, уласнаручна ім падпісаныя.

Хутчэй за ўсё, Вінцэнт быў на ўмоўнай волі ўжо да 19 лістапада, калі камісія накіравала на яго імя запыт з пытаннямі аб зносінах з Чапкоўскім і яго меркаванымі саўдзельнікамі. І ў гэтым запыце Марцінкевіч ужо не названы «змешчаным у Мінскім турэмным замку».

Падамо цалкам яго адказ: «На запыт камісіі наступнае гонар маю адказваць: у дачыненні да 1-га пункта: ніколі ў жыцці не ведаў я ніякага фельчара Івашкевіча, і таму ніжэй найменшых з ім не мог мець сувязяў. І як з дапамогай яго, так і роўна каго іншага не меў з Чапкоўскім зусім ніякіх зносінаў, а, быўшы нявінна ім абгавораны (як перад Коверскім і Эйсмантам ён сам прызнаўся, а ад якіх я, знаходзячыся ўжо ў астрозе, чуў), не меў патрэбы ўваходзіць з ім, Чапкоўскім, у ніякія сувязі, і толькі нецярпліва чакаў сканчэння справы, каб выявіць маю нявіннасць. У дачыненні да 2-га пункта: ні з Івашкевічам, ні з нейкім Вінцэнтам Чапкоўскім, пра якіх першы раз чую, не меў ніякіх спатканняў, тым больш, што сам, быўшы арыштаваны, перш на гаўптвахце, пасля ж маючы варту на кватэры, ні з кім не бачыўся, акрамя як з найбліжэйшымі сваякамі. У дачыненні да 3-га пункта: паколькі я, быўшы сам арыштаваны, не меў і мець не мог ніякіх зносінаў з Чапкоўскім, то не магу ведаць, па якіх прычынах здарыліся ўцёкі і дзе схаваўся Чапкоўскі. Слушнасць такога паказання, быўшы гатовы пацвердзіць прысягай, уласнаручна падпісаў. Вінцэнт Марцінкевіч».

Сапраўды Марцінкевіч быў «нявінна абгавораны» ці хаваў праўду? Па справе падробных дакументаў яго торгалі і пазней, у 1840-я.

### «Маю запал да кніг»

Другі запыт Марцінкевічу быў дасланы з трохі незвычайнай нагоды. Жонка Чапкоўскага Эмілія падала прашэнне аб вяртанні рэчаў мужа, сярод якіх згадвалася «кніга натуральнай гісторыі з малюнкамі звяроў». Да здзяйснення следчых гэта кніга не была знойдзена ў камеры, дзе раней утрымліваўся ўцякач. На допыце яго сукамернік Коверскі патлумачыў: Чапкоўскі падарыў кнігу яму, а ён, калі ў гэтай камеры знаходзіўся Марцінкевіч, перадарыў яе Вінцэнту. І той вынес яе пры вызваленні з турмы. Адказ Марцінкевіча сведчыць, што ўжо тады ён быў палкім збіральнікам кніг: «Калі я змешчаны быў у астрог і знаходзіўся ў адной святліцы з п. Коверскім, то ён, даведаўшыся, што я маю бібліятэку і што маю запал да кніг, сапраўды падарыў мне сваю (як сам сказаў) кнігу — натуральную гісторыю, і прасіў мяне, каб я, як буду зусім звольнены, то ўбачыўся б з яго сынамі і выгаварыў ім за тое, што яны зусім пра бацьку забыліся. То ж прасіў мяне, каб у нядзелю калі-небудзь бралі мы з жонкаю да сябе ў дом яго маленькую дачку, якая знаходзіцца ў манастыры Марыянак (ці ў дабрачыннай установе, на Траецкай гары змешчанай). Спадар жа Коверскі, аддаючы мне гэтую кнігу, проста казаў, што яна, як і іншыя, што ў яго знаходзяцца, ёсць яго ўласная. Вяртаю вышэй згаданую кнігу».

Факты, выкладзеныя ў дакументах, сведчаць пра досыць вольныя ўмовы знаходжання вязняў у турме ў пачатку XIX ст. Цяжка было б сёння ўявіць, каб хтосьці мог пранесці ў камеру «ў кішэні» вялізную суму грошай ці ўласныя кніжкі, узятыя з дому.

З-пад хатняга арышту Марцінкевіч выйшаў толькі ў лютым. Перш за ўсё Марцінкевічы хрысцілі дачку Эмілію. А, вярнуўшыся на службу пасля чатырох месяцаў адсутнасці, 28 лютага Вінцэнт патлумачыў начальству, што «прычынай чатырохмесячнай адсутнасці ў канцылярыі былі арышт і затрыманне ўладамі ў кватэры». Версіі пра хатні арышт паверылі (і нават не звольнілі), і яна стала афіцыйнай у біяграфіі Марцінкевіча. І толькі новыя дакументы дазволілі праліць святло на нялёгкі тыдзень будучага беларускага класіка, праведзены ў Мінскім турэмным замку.



Валадарка сёння.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Дзмітрый Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кнігі «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

**Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**

(1808—1884) — беларускі драматург, паэт, тэатральны крытык. Заснавальнік нацыянальнай драматургіі, тэатра, першы класік новай беларускай літаратуры. Яго п'есы «Ідылія» і «Пінская шляхта» і сёння ідуць у Купалаўскім тэатры.

# Аляксей Знаткевіч: **Людзі самі абмяжоўваюць свабоду, самі часам яе прадаюць**

Раман Кена Кізі «Палёт над гняздом зязюлі» ў перакладзе на беларускую мову чакае выдаўца. Карэспандэнт «НН» пагутарыў з перакладчыкам культавай кніжкі **Аляксеем Знаткевічам**.


КІРЫЛА ХІЛЬКО

**«Наша Ніва»: Як я разумею, гэта Ваш не першы такі пераклад?**

**Аляксей Знаткевіч:** Дагэтуль я чагось вялікага не перакладаў. Апавяданні толькі. У часопісе *Arche* выходзілі пераклады Ірвіна Уэлша, таксама ўдзельнічаў у перакладах Чарльза Букоўскага — усё гэта з англійскай мовы. Таксама перакладаў маладога негрыцянскага пісьменніка з ЗША, апавяданне якога я ўбачыў у мясцовай газеце, калі вучыўся ў Штатах. І былі пераклады Кундэры з чэшскай мовы.

**«НН»: Самы першы пераклад узгадаеце?**

**АЗ:** У 90-я, у дакамп'ютарную эпоху, я ад рукі перакладаў Эдгара По і прыносіў у «Нашу Ніву». Але, як гэта здараецца, тое апавяданне ўжо пераклалі да мяне два чалавекі, сярод якіх Юрась Бушлякоў. Называлася яно «Сэрца выкрывае» ў Юрася. Я пайшоў іншым шляхам і пераклаў яго як «Сэрцавыкрыўца», у арыгінале «The Tell-Tale Heart». І таму, што ўжо друкаваліся іншыя версіі, мой пераклад не надрукавалі.

**«НН» Як увогуле Вам захацелася займацца мастацкім перакладам?**

**АЗ:** Яшчэ ў школе спрабаваў нешта перакладаць, калі граў у музычным гурце. Як ні дзіўна, тады я хацеў перакласці беларускія тэксты на рускую мову — Караткевіча, Багушэвіча, рабіць нейкі блюз на гэтыя вершы. Потым вучыўся ў Лінгвістычным універсітэце на перакладніцкім факультэце, і, зразумела, там мы перакладалі шмат чаго. Калі я пісаў курсавую, дык перакладаў неаўтарызаваную біяграфію *Rolling Stones*. А дыпломную работу пасля пісаў па перакладзе гумару.

**«НН»: Самае складанае, з чым давялося сутыкнуцца падчас працы над перакладам Кена Кізі і ўвогуле падчас Вашай перакладніцкай дзейнасці?**

**АЗ:** Самае складанае — перакласці жывую мову. Кізі напісаў твор вельмі жывой мовай дыялогаў — у кожнага свая індывідуальная гаворка, свае асаблівасці. І таму тут вельмі шмат варыянтаў выбару. Напрыклад, як будзе размаўляць галоўны герой? Якія будуць яго ўлюбёныя слоўцы? Які ў яго будзе дыялект?

**«НН»: Мяне вось гэтае пытанне таксама зацікавіла. Улічваючы тое, што аповед вядзецца ад асобы індзейца — якая ў яго мова?**

**АЗ:** Я чытаў два рускія пераклады кніжкі, і мне падаецца, што іх аўтары занадта спрасцілі гэтага чалавека — правадыра Бродмэна. У арыгінале прастамоўя няма. Гэты індзеец дастаткова правільна гаворыць, ён паслугуецца насычанай літаратурнай мовай.

Мне ўжо даводзілася сутыкацца з думкай, што, маўляў, выдатна перакладзена, паказана, што гэта псіхічна хворы індзеец. Але ж ён не гаворыць як псіхічна хворы. У яго свой стыль апавядальніка. Ды і чалавек з абмежаванымі разумовымі здольнасцямі не зможа перадаць такі аповед. Таму я спрабаваў максімальна адэкватна захаваць гэты стыль і выкарыстаць насычаную беларускую мову — па-мойму, гэта адзіны правільны шлях. Гэты індзеец — стваральнік усяго гэтага свету. На пачатку кнігі ёсць фраза Бромдэна, якая для мяне з'яўляецца квінтэсэнцыяй усёй мастацкай літаратуры: «Але гэта праўда, нават калі гэтага не было». Ён стварыў гэты свет, гэты аповед, ён — дэміург.

**«НН»: Добра, а Макмёрфі тады хто?**

**АЗ:** Для мяне — такі зухаваты хлопец. На жаль, мне цяжка было яго перакладаць. Я спрабаваў браць формы гаворкі, якую памятаў яшчэ з дзяцінства, калі ездзіў да бабулі пад Ганцавічы. Як літаратурны герой, Макмёрфі амаль паўтарае той жа вобраз, які Караткевіч выкарыстаў прыблізна ў той самы час у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — Юрася Братчыка. Гэта спачатку добры махляр, такі вясёлы круцель, які робіць усё не ад злосці, але пра сябе ніколі не забываецца. А цягам апавядання ён трансфармуецца, прасякаецца пакутамі тых, хто побач з ім. Разумее, што нясе адказнасць за людзей, бо яны ў яго паверылі.

**Макмёрфі амаль паўтарае вобраз, які Караткевіч выкарыстаў у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — Юрася Братчыка**

Што датычыцца моўнага аспекта, ёсць спакуса перакладаць некаторыя амерыканскія моўныя памылкі трасянкай, але гэта не той выпадак. Хутчэй трасянку варта выкарыстоўваць, калі перадаваць гаворку чорных санітараў ці чорных дзяўчат на бавоўнавай фабрыцы.

У той жа час ёсць спакуса выкарыстоўваць нейкія блатныя выразы, бо Макмёрфі ж з «хіміі» адкінуўся. Але тут нельга падмяняць адную гістарычную рэалію іншай — Макмёрфі не блатны ў класічным разуменні. Ён дасведчаны чалавек, які шмат дзе пабываў, але не крымінальны элемент, павязаны блатнымі паняццямі. Ён сапраўдны all-American — ваяваў у Карэі, сядзеў у лагеры, збег адтуль, сек лес, гуляў у карты, сядзеў на «хіміі»... І там сапраўды была такая спецкамендатура, куды асуджаныя людзі прыходзілі, вельмі падобна да таго, як было ў Паўла Севярынца, таму слова «хімія» ў творы ёсць. Я адразу скажу, што той тэкст, які надрукавалі ў «Прайдзісвеце», рэдагавала Марыйка Мартысевіч, за што ёй дзякуй.

**«НН»: А чаму захацелася перакласці менавіта гэты твор?**

**АЗ:** Проста зачапіла, калі я яго прачытаў першы раз, — яшчэ парэску недзе на першым курсе ўніверсітэта. Пасля па-англійску чытаў. З'явілася думка, што вельмі моцны твор, які варта перакласці. Перакладаў я даволі доўга, недзе паўгода — і працы хапала. Глядзеў свайго малога, гайдаў яго, закалыхваў і перакладаў пацыху.

**«НН»: Як хобі?**

**АЗ:** Літаральна так. Не было ніякіх дамоваў, нічога. Але цяпер гэта і ёсць праблемай. Ёсць тэкст, але невядома, што з гэтым далей рабіць. Хочацца, каб выйшла кніга, але канкрэтных дамоваў не было. І яшчэ было вельмі цікавае пытанне з аўтарскімі правамі. Я звярнуўся да сына Кізі, сказаў, што пераклаў твор яго бацькі на беларускую мову, што мова не такая пашыраная, рынак маленькі, таму папрасіў дазволіць надрукаваць пераклад бясплатна ці за нейкі мінімальны кошт. На што ён вельмі здзівіўся, маўляў, Алекс, вы ж не бясплатна перакладалі? А я яму кажу, што бясплатна, што мне настолькі спадабаўся твор яго нага бацькі, і чым на большай колькасці моваў ён выйдзе, тым лепш. Але ён адказаў, што ў яго няма аўтарскіх правоў, яны належаць нейкай фірме.

У прынцыпе, выдаць можна, было б жаданне: для Усходняй Еўропы ўсе рашэнні прымае латвійскае прадстаўніцтва фірмы, якая трымае аўтарскія правы. І кошт можа скласці некалькі сотняў даляраў. Але я не хачу хадзіць па выдавецтвах, дабівацца — я не такі чалавек.

**«НН»: А па-Вашаму, гэта нармальна — плаціць грошы людзям, якія і пальцам аб палец не стукнулі, каб з'явіўся мастацкі твор?**

**АЗ:** Я не вялікі аматар аўтарскіх правоў ва ўсім. Але хочацца, каб чалавек, які нешта добра зрабіў, мог добра за гэта жыць. Калі гэта яго ныя дзеці, нашчадкі, сваякі. А фірма, выдавецтва — гэта больш складанае пытанне. Бо відавочна, што выдавецтва нешта заплаціла аўтару ці яго нашчадкам, каб выкупіць правы. З іншага боку, я лічу, што такія творы мастацтва, літаратуры належаць усяму чалавецтву.

**«НН»: Вы чыталі кнігу некалькі разоў у розным веку. Як змяняецца ўспрыманне з часам?**

**АЗ:** Па-рознаму можа ўспрымацца фігура галоўнага героя — Макмёрфі. Калі чытаеш кнігу ў 17 год, ён відавочна герой. Але ў больш сталым веку ў ягонай фігуры бачны пэўны трагізм. Ён нібы лялька, якая ў выніку робіць тое, чаго ад яе чакаюць. Ён прывык рабіць усё выключна са сваёй волі, але ў канцы спачувае астатнім і, як мне падаецца, робіцца праекцыяй іх чаканняў.

**Трасянку варта выкарыстоўваць, калі перадаваць гаворку чорных санітараў ці чорных дзяўчын на бавоўнавай фабрыцы »**

**«НН»: Часам хочацца змяніць ход падзей у творы?**

**АЗ:** Адзінае, што мне згадваецца — гэта адчыненае акно. Вось жа яно, можна вырваца на волю! У кнізе проста даецца тлумачэнне, чаму герой гэтага не робіць. І тут ты думаеш: «Дружа, ну што ж ты чакаеш?» Ёсць суперажыванне ў гэтым моманце — азірніся, паглядзі ж!

**«НН»: Бачыце паралелі паміж гэтым творам і «Дысцыплінарным санаторыем» Лімонава?**

**АЗ:** Лімонаўская публіцыстыка даволі танная ў пэўнай ступені... Лімонаў атакуе там «1984» Оруэла — бліскучы твор... І атакуе за другаснае, за такія рэчы, з якімі сам Оруэл мог бы і пагадзіцца.

**«НН»: А падабенства свету, створанага ў кнізе Кізі, да цяперашняга беларускага грамадства яўнае?**

**АЗ:** Яно яўнае не толькі датычна беларускага грамадства, а сучаснага грамадства ўвогуле. Памятаеце, Макмёрфі кажа астатнім пацыентам, што яны яго падстаўляюць, калі ён пачынае за іх бучу. Ён кажа, што толькі там зразумеў, што гэтая медсястра яго можа трымаць колькі заўгодна. А яму адказваюць, што ён нават губляе больш, чым астатнія: «Мы ж тут амаль усе добраахвотна». Для Макмёрфі гэта шок.

Ідэя такая, што людзі самі не могуць справіцца з сабой, са сваёй асобай, патрабуюць нейкай дысцыпліны, абароны, моцнай рукі. Самі абмяжоўваюць свабоду, самі яе часам свядома прадаюць.

**«НН»: Тады Ваш топ-3 беларускіх Макмёрфі. Жывых асобаў.**

**АЗ:** Першы, хто прыходзіць у галаву, — гэта Мікола Статкевіч. Але ж не хочацца яго пакрыўдзіць такім параўнаннем. Проста Статкевіч — гэта чалавек, які адлюстроўвае жаданні часткі людзей, калі ён казаў перад 2010 годам, што ёсць сцяна і трэба яе штурхануць плячом. Гэта тое ж самае, калі Макмёрфі казаў наконт вялікай панэлі кантролю, якую ён не змог вырваць, каб разбіць ёй шыбу: «Я, прынамсі, паспрабаваў».

З аднаго боку, для палітыка гэта не самы лепшы крок — штурхаць плячом сцяну. З іншага боку, ён адлюстроўвае чаканні часткі людзей, і адказвае за свае ўчынкі, адмаўляецца ісці на кампрамісы. Зноўку гэтая паралель, калі Макмёрфі спрабуюць лячыць электрашокам... Адна справа зрабіць нешта на адрэналіне, а іншая — рабіць нешта свядома і кожны дзень адказваць за свае ўчынкі. Гэта тое, што прыходзіць мне ў галаву адразу, больш персаналій не назаву.

**«НН»: Вось мне ў Бромдэне бачыцца наш нацыянальны характар. Пры канцы кнігі высвятляецца, што ён і не дурны, і не глуханямы, ды і пасля ён падымае тую самую панэль і разбівае ёй шыбу, каб вызваліцца. Толькі ён да таго не верыў, што так можа, і хаваў сваю сутнасць.**

**АЗ:** У прынцыпе, можна і такую паралель правесці. Я пагаджуся з Вашымі словамі. Сілы, якія дрэмлюць у нашых людзях, вялікія. Бромдэн думае, што ён маленькі, ён баіцца. А Макмёрфі яго трэніруе, кажа яму, што ён расце. Магчыма, калектыўная свядомасць у адзін дзень вырашыць, што мы такія моцныя, што можам высадзіць гэтыя кратаваныя вокны і вярнуць тое, што нам належыць па нашым праве ад нараджэння.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**




СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Зборная Беларусі па футболе завяршыла год аптымістычнай перамогай над мексіканцамі — 3:2. На гульню на «Барысаў-Арэне» прыйшло 6700 гледачоў. Беларусы прадэманстравалі яркі атакуючы футбол. На фота: Рауль Хіменес забівае першы гол у нашы вароты.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**У Беларусі выпаў першы снег. Галалёдзіца і снег прывялі да ўсплёску аварый на дарогах краіны. А бліжэй да наступных выхадных чакаецца ўжо сапраўдная зіма. Слупок тэрмометра апусціцца да —15 градусаў.**




**Дызайнер Уладзімір Цэслер прапанаваў варыянт рэбрэндынгу авіякампаніі «Белавія».**



**У мінскую Свіслач запусцілі 10 000 рыбін: шчупакоў, карасёў, таўсталобікаў. Акцыю па зарыбленні Свіслачы правялі сталічныя эколагі. Рыбу выпусцілі ў раку каля мінскай ЦЭЦ-2, у Камсамольскае возера, а таксама вадасховішчы Дразды і Чыжоўскае.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Аляксандр Лукашэнка яшчэ не вызначыўся: пасля адстаўкі ён або стане рэктарам універсітэта, або будзе прабівацца ў НХЛ.

* * *

— Якая дзіўная ў вас шпага, месье!
— Гэта арматура, сэр!

* * *

Трэнер зборнай Расіі Фабіа Капэла — самая страшная санкцыя Еўрасаюза супраць Расіі.

* * *

Многія беларусы ў Дзеда Мароза вераць больш, чым у працу па спецыяльнасці.

* * *

– Што ты робіш са сваім жыццём? Ты так і збіраешся праваляцца ўсё жыццё на канапе, гледзячы серыялы?
– Так.
– Можна я з табой?

* * *

– Чаму вы думаеце, што ў вас раздваенне асобы?
– У каго з нас вы пытаецеся?

* * *

Прыняць мужчыну такім, які ён ёсць, можа толькі ваенкамат.

* * *

Ён так прыгожа хлусіў, што следчы пачаў прадаваць білеты на допыты.

* * *

Цэнтрабанк Расіі абверг паведамленні аб намерах рэгуляваць курс грэчкі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Князь М.Радзівіл, гаспадар двара Кухцічы Ігуменскага павета,** надоечы забіты на вайне. М.Радзівіл быў жанаты з княгіняй Магдаленай Радзівіл, якая лічыць сябе за беларуску і мае ў Ігуменскім павеце каля 1,500 валок зямлі. Пры перавозе цела забітага князя праз Мінск 24 лістапада беларусы палажылі вянок на труну з надпісам: «Князю Мікалаю, сыну зямлі беларускай. Беларусы». І на другой стужцы: «Лёгка зямелька табе, княжа, у роднай забытай старонцы».

**«НН». №47. 1914.**

**Шчэ нэ вмэрла.** Тры дні ва Украіне ішла вайна нерваў. Улады не маюць сродкаў, каб задушыць народнае паўстанне. Дэманстранты не маюць досыць сілы, каб узяць пад кантроль Адміністрацыю прэзідэнта, ЦВК і тэлебачанне. Кучма спадзяецца, што рэвалюцыя выдыхнецца.

**«НН». №44. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 25.11.2014.
Замова №4453.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 14044